

Фасты → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Родам з Агароднічкаў → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 41 (3204) Год LXII Беласток, 8 кастрычніка 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Заснавальніца тэатра «Чрэво» і галоўны арганізатар фестывалю «Одэ» **Іаанна Стэльмашук-Троц**

# Мы нічога не прывезлі, мы самі зрабілі!

**— Размаўляем у гарачым перыядзе для тэатра «Чрэво» — якраз пачаўся арганізаваны Табою Тэатральны фестываль «Одэ». Гэта ўжо чацвёрты выпуск. Якую галоўную задачу ставіш перад сабою?**

— Па першае, каб мова і культура былі жывымі. Каб гэта дасягнуць, мусяць быць важныя тэмы, цікавыя спектаклі, з чым людзі могуць ідэнтыфікавацца, у чым змогуць прыкмеціць сваё. У гэтым годзе мы падрыхтавалі многа спектакляў для дзяцей. Па-мойму гэта вельмі важнае, што наймалодшыя мелі магчымасць пачуць беларускую мову са сцэны. Гэта адукацыйнае мерапрыемства, хаця адукацыя ў тэатры, дыдактыка адразу асацыююцца з нечым пафасным, нецікавым... Не, мне ідзе пра гэта, што на Падляшшы не часта маем магчымасць глядзець спектаклі на беларускай мове. Наш фестываль гэта такое свята, на якім і дзеці, і моладзь могуць пайсці ў беларускі тэатр. Я стараюся праз спектаклі паказаць беларускіх аўтараў. Вельмі чакаю спектакля «Пайсці і не вярнуцца» на аснове аднайменнай аповесці Васіля Быкава. Я не мела магчымасці вывучаць беларускую мову ў школе, але ведаю, што фрагменты гэтай кнігі занесены ў спіс літаратуры для чытання ў ліцэі. I ведаю, што ўсе вучні Бельскага і Гайнаўскага беларускіх ліцэяў пойдуць на той спектакль. Вядома, людзі наогул нямнога чытаюць, а калі гаварыць пра кніжкі на беларускай мове... ну, гэта праблема. Нармальна чытаеш па-польску на лацініцы, а каб нешта прачытаць па-беларуску гэта патрабуе больш працы.

**— Усё-такі Ты паставіла перад сабою такі выклік і пастаралася, каб польскамоўную кніжачку для дзяцей («Ваўчок-маўчок» Багдана Дудко) перакласці і паказаць, нават не на беларускай мове, а на падляшскім дыялекце.**

— Думаю аб гэтым крыху па-іншаму. Спектакль «Пайсці і не вярнуцца» на беларускай мове ўпісваецца ў школьную праграму. «Ваўчок-маўчок» на падляшскім дыялекце гэта зусім іншае. У ім гэтага адукацыйнага характару няма. Я проста раблю такія спектаклі, якія мне падабаюцца. Калі раблю спектаклі на фестываль, думаю аб гэтым, што можа зацікавіць дзетак, моладзь, таму што мы, каб пачуць беларускую мову са сцэны, мусім ехаць у Беларусь. Яшчэ іншай справай з'яўляюцца непрафесійныя маладзёжныя тэатры, з якімі супрацоўнічаю. Выбіраю тэмы, якія цікавыя не толькі мне як акцёрцы, артыстцы, якая шукае ўласнай дарогі, але якія могуць зацікавіць маладых людзей.

**— Менавіта, Ты сама хочаш развівацца, як акцёрка, але да гэтага Ты таксама рэжысёрка, сцэнарыстка, арганізатарка фестывалю... Ці не баішся разгубленасці? Гэта не разбівае крыху такую творчую асобу?**

— Я лічу, што наадварот. Калі я працую з моладдзю як рэжысёр, пішу сцэнарый, раблю адаптацыю, таксама клапачуся пра сцэнічнае афармленне. Я лічу, што гэта вельмі развівае і вучыць мяне пакорнасці для тэатра і пакоры ў падыходзе да другога чалавека. Апрача таго дае мне магчымасць гаварыць пра тэмы, якія мяне цікавяць, але я сама не рэалізавала б гэтага на сцэне. З групай, я магу гэта зрабіць. Так, як зрабілі «Рамэа і Джульету». Тут трэба было падумаць як гэта зрабіць, каб спектакль не быў надта цяжкім для моладзі, але і не лёгкім. Каб там быў Шэкспір, але і дух Падляшша. Гэта быў вельмі цікавы выклік. Цешуся, што такія выклікі стаяць перада мною.

**— А калі б паглядзець на Тваю працу з моладдзю з рабочага боку. Як выглядае праца над беларускім тэкстам, які моладзь мусіць вывучыць? Вядома, супрацоўнічаеш з вучнямі беларускіх ліцэяў, усё-такі ў час падрыхтоўкі да спектакля напэўна моўным пытанням прысвячаеш многа ўвагі.**

— Складанасцей вялікіх няма. Праблемай з'яўляецца справа нацыскаў. Мы ўжо выхаваліся ў польскай культуры. Іхнія бацькі часам нешта загавораць па-беларуску, пасвойму, але ўжо да дзетак звяртаюцца на польскай мове і яна з'яўляецца ім першай. Таму нацыскі ставяць яны так, як у польскай мове. Відаць, што моладзь мае кантакт з беларускай мовай, з гаворкамі, адчуваецца такая моўная свабода. На маю думку ёсць добра. Яны адчуваюць, што гэта іх, ідэнтыфікуюцца з беларускай культурай.

**— Здаецца, што Ты сама найлепш сябе адчуваеш у спектаклях, якія выкарыстоўваюць гаворкі Падляшша. Усё-такі залежыць Табе, што відаць па праграме фестывалю, на гэтым, каб літаратурная мова таксама гучала са сцэны?**

— Мы на кожны фестываль запрашаем новую групу. Шукаем новых людзей, а Тэатр беларускай драматургіі з Мінска быў на фестывалі «Пролаг» у Бельску-Падляшскім. Удалося наладзіць кантакты і запрасіць іх да нас. Тры выпускі фестывалю былі з тэатрамі з Беларусі. На першым фестывалі мы выступілі як тэатр «Чрэво». Ігралі таксама польскія групы.

**— Запрашаеце на фестываль тэатры з Беларусі. Ці канфрантацыя з іншай публікай, у іншых культурных абставінах развівае? І ці ў Цябе ёсць такая патрэба, каб паказваць свае спектаклі на Беларусі, Украіне ці дзенебудзь?**

— Напэўна гэта пытанне часу, таго ці маеш кантакты, або іх яшчэ не маеш. Я на этапе пошуку кантактаў. Шукаю таксама цікавых артыстаў, з якімі можа буду супрацоўнічаць. Я была на фестывалі ў Берасці. Мы наладзілі супрацоўніцтва. Думаю сабе, што ўсё наперадзе.

**— А ці ёсць у Цябе такія планы, каб тэатр «Чрэво» меў сваю пастаянную сцэну і акцёраў?**

— Каб такі тэатр існаваў, на гэта патрэбныя грошы, пастаяннае фінансаванне. Тут не было б столькі гледачоў, каб мы ўвесь час ігралі. Такі тэатр мог бы існаваць толькі на такіх прынцыпах, як установа культуры, якая была б фінансаваная. Томэк і Юлька скончылі акцёрскія школы, яны ўжо не студэнты і я таксама не. Мы хочам зарабляць грошы. Пакуль што няма такой магчымасці. Думаю, што працуем на гэта, каб такую сцэнку пры нейкім асяродку культуры ці ўстанове стварыць.

**— Тэатральны фестываль «Одэ» яшчэ не завяршыўся, аднак ці быў ужо нейкі спектакль, падзея, якой Ты асабліва чакала, або якой чакаеш?**

— Заўсёды прэм'ера гэта новы этап, вельмі важны. Думаю сабе, што для нас, беларусаў Падляшша, наогул важнае тое, што фестываль адбываецца. Таму важныя таксама непрафесійныя спектаклі, таму што яны паказваюць, што ёсць маладыя людзі, якія хочуць па-беларуску займацца тэатрам. І гэта цешыць. Таксама як тое, што мы падрыхтавалі новую прэм'еру спектакля «Ваўчок-маўчок». Гэта доказ на тое, што не толькі арганізуем і запрашаем тэатры з-за мяжы, але і самі ствараем. Нам, беларусам Падляшша, важнае, што ў нас культура жывая. Яна не толькі корміцца тым, што нехта можа прыехаць з Беларусі і нешта паказаць, але таксама мы самі можам нешта прапанаваць гледачам.

**— Разумею, што менавіта гэта не паменяецца і заўсёды на фестывалі дамінуючым будзе падляшскі характар.**

— Хутчэй, гэта галоўная інспірацыя. Дзеля гэтага мы робім фестываль, каб было відаць, што наша культура жыве. Мы нічога не прывезлі, мы самі зрабілі! Таму фестываль называецца «Одэ». Якраз таму.

**— Дзякую за размову.**

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**





# Ну дык за якім?!

У беларускім горадзе Барысаў адбылася вялікая спартовая падзея. Беларускі футбольны клуб БАТЭ зышоўся памерацца сіламі з адным з флагманаў сусветнага футболу брытанскім „Арсеналам”. А гэта вялікая падзея не толькі для Барысава, але і для ўсёй Беларусі. Хто цікавіўся футболам з часоў СССР памятаюць, што некалі нашы людцы толькі марылі пра такое. Ну а зараз гэта рэальнасць. І стала гэта рэальнасцю таму, што Рэспубліка Беларусь у свой час перастала быць правінцыяй Савецкага Саюза, а абвясціўшы незалежнасць стала свабоднай краінай, ганарова падняўшы на планеце Зямля бел-чырвона-белы сцяг і герб „Пагоня”.

Без гэтай лёсавай падзеі не толькі „Арсенал”, але можа нават і брытанскі прэм'ер наўрад ці што ведаў б пра слаўны горад Барысаў. А можа нават і пра рэспубліку, у якой той горад знаходзіцца, бо менавіта пасля абвяшчэння незалежнасці да нас паехалі замежныя амбасадары, артысты, спартоўцы, бізнесоўцы, турысты і іншыя патрэбныя і непатрэбныя наведвальнікі. І ўсё гэта па сённяшні дзень асацыюецца з бел-чырвона-белым сцягам. Пасля дзяржаўную сімволіку памянялі і да нас сталі прыязджаць яшчэ і расійскія салдаты. Але гэта ўжо асобная тэма.

Вернемся да спорту. Думаю што справядліва было б з гонарам ушанаваць бел-чырвона-белы сцяг на такой спартовай сустрэчы як у Барысаве хаця б таму, што ён у маладой беларускай краіне стаў апроч іншага яшчэ і сімвалам зараджэння сусветных кантактаў, у тым ліку і спартовых. Аматары футболу то прыносяць яго на стадыёны. Прыносілі нават тады, калі іх з энтузіязмам таўклі за гэта раз'юшаныя ахоўнікі парадку. І што характэрна, што не толькі заўзятары БАТЭ, але і беларускія фанаты „Арсеналу” вітаюць яго. Вось толькі відэакамеры, якія вядуць трансляцыю з футбольных спаборніцтваў сарамліва стараюцца абмінуць гэтыя старажытныя беларускія сімвалы сваёй увагай.

Гэтую абуральную ва ўсіх сэнсах несправядлівасць вырашыў выправіць Аляксандр Венгерскі. Падабраўшы момант калі ў гульні была паўза ён выскачыў на стадыён у кашулі з „Пагоняй” і, узняўшы над галавой бел-чырвона-белы сцяг, пад апладысменты гледачоў панёсся па Барысаў-арэне, пакуль яго не скруцілі ахоўнікі. Пасля яго зноў жа пад апладысменты стадыёна павалаклі ў суд, дзе ён і распавёў, што яму яшчэ і па нырках дасталася. Нават хуткую выклікалі.

У судзе з ім таксама не асабліва цырымоніліся і ўвалілі дзесяць сутак за хуліганства. А ў модных на сённяшні дзень сацыяльных сетках пачалося абмеркаванне гэтага ўчынку. І там адны захапляюцца Венгерскім, другія шукаюць яму ўсялякія апраўданні, а некаторыя лічаць, што для такіх дзеянняў гэта было не месца і не час.

І я ведаю, што стадыёны зробленыя для таго, каб там падчас матчу за адным мячыкам бегалі дзвацаць два чалавекі. І ні адзін болей. Але ўсё гэта было б правільна, каб не адно „але”. І гэтае „але” вынікае з аднаго простага пытання: — А ці ёсць у Беларусі месца, дзе можна публічна прапагандаваць свае старадаўнія сімвалы?

Ды і хуліганства са сцягамі ў беларускай гісторыі з'ява не новая. Вось, прыкладам, гісторыя сусветнага маштабу, калі ў Рыа-дэ-Жанейра, пад тэлетрансляцыяю на ўсю планету, на цырымоніі адкрыцця Параалімпіяды-2016 беларускі спартыўны функцыянер Андрэй Фомачкін узняў расійскі сцяг і нёс яго, пакуль бразільцы не забралі. Расейцаў тады да гульняў не дапусцілі за скандал з допінгам. Быў Фомачкін за допінг ці за Расію? — ужо не важна. Важна, што за гэтае хуліганства яго ў суд не пацягнулі і нават у косці не далі. А далі чарговую пасаду.

Таму калі нехта лічыць, што Аляксандра Венгерскага пакаралі за хуліганства, можа пацікавіцца ўчынкам Фомачкіна. І зразумець, што галоўная розніца паміж гэтымі двума хуліганствамі ў тым, што Аляксандр Венгерскі нёс над галавой менавіта бел-чырвона-белы сцяг.

І яшчэ добра было б, каб уцямілі ўсе, асабліва тыя, хто прымае рашэнні каго караць, а каго ўзнагароджваць. За хуліганства з нейкімі іншымі сцягамі пасады даюць, а ніхто не хоча іх паўтараць. За такія ж дзеянні з бел-чырвона-белым — караюць. А людзі ўсё адно свядома ідуць на тое.

Ну дык за якім сцягам будучыня?!

**Віктар САЗОНАЎ**

# Свінні і елі



Свіння для чалавека толькі харчовы прадукт, нічым не адрозніваецца ад новай мэблі купленай у «Ікеі» або банкі таматнага пюрэ ў супермаркеце. Толькі што свіння жывая. Вядома, што адчувае. Але што, чорт вазьмі! Цікава, ці думае? Напрыклад, пра тое, чаму яна праводзіць вялікую частку жыцця ў турэмнай ферме? Або чаму, пасля смерці, па-хамску яе пакуюць у кансервавую трунку і мусіць — якая горкая іронія! — на паліцы распадацца ў тэрміне прыдатнасці для чалавека? Нягледзячы на гэта, пагалоўе свіней на зямным шары павялічваецца, чаму спрыяе любячы высокі бялок чалавек. Глабальнае пагалоўе свіней можна ацаніць на вока на адзін-паўтара мільярда асобін пажыраных паслядоўна асобінамі іншага віду, якія ўжо налічваюць амаль 8 млрд. Тэзіс, які кажа, што чым больш людзей, тым больш свіней, здаецца відавочным. Але калі перавярнуць яго так, што чым больш свіней, тым больш людзей, праблема градацыі відаў як такой паказваецца ў новым святле. Свіння стала для чалавека тым, чым Пушча для карaеда-тыпографа. Культываваныя на самой справе сасновыя і яловыя лясы для кораеда гэта як для кароў сакавітая паша. Буйныя свінакомплексы гэта пашы для людзей. Але ніхто не кажа пра тое, што да віднай градацыі караеда, як да свіней, спрычыніўся чалавек. Гэта чалавек на працягу па меншай меры двух стагоддзяў вырошчвае монакультуру лесу — на самой справе толькі ў Польшчы. І, напэўна, у так званай Белавежскай пушчы. Тае пушчы ў пушчы — колькі зубр наплакаў. А і тую біялагічна разнастайную рэштку натуральнага лесу высякае чалавек усімі чалавечымі сіламі. Патрануе таму Міністэрства аховы асяроддзя, ці як там называюць цяпер яго, якім кіруе ялова-хваёвы выраджэнец, Шышка, аб чым трэба ўспамінаць пры кожным зручным выпадку. А таксама пра той факт, што чалавечая градацыя перавысіла крытычную масу. Магчыма, чалавечы род даўно стаў, і гэта па ўласным жаданні, монакультурай? Чыёй толькі? У рэшце рэшт, гэта найменш важна. Таму што нават калі яшчэ ёю не ёсць, то хутка будзе, давёўшы да гібелі большасць раслін і жывёл. Знойдзецца і на яго якісьці караед.

Я іду за голасам тых вучоных, якія сцвярджаюць, што Прырода з караедам справілася б сама. Я таксама трымаю заклад, што добра справіцца і з чалавекам. Мае для гэтага адпаведныя інструменты: эпідэміі, стыхійныя бедствы і, нарэшце, надзвычай сучасную зброю — закадаваную ў структуры галаўнога мозгу чалавека ўнутрывідавую агрэсію, якая выяўляецца войнамі. Калі да чалавечай агрэсіі дадаць творчы інтэлект, які хутчэй можна палічыць за эвалюцыйны дэфект, чым узвышэнне над іншыя зямныя віды, Прырода мае ўсе магчымасці для эфектыўнага зніжэння чалавечай градацыі. І непазбежна яе абмяжуе. Хопіць для гэтага чарговая сусветная вайна.

У святле апошніх навуковых адкрыццяў, а варта тут адзначыць, што да гэтага часу ўсё яшчэ няпоўных, войны не з'яўляюцца вынаходствам чалавека. Змагаюцца адзін з адным жывёлы, б'юцца расліны. У межах іх уласнага віду, а таксама ў міжвідавой канфрантацыі. Гэта адбываецца таксама на ўзроўні бактэрый або нават вірусаў. Пашырэнне розных відаў у зямной экасістэме з'яўляецца вынікам гэтай пастаяннай барацьбы. Яе вынікам можа быць альбо часовае аслабленне якойсьці папуляцыі, або яе пастаянны біялагічны рэгрэс, або знікненне. Кожны з гэтых выпадкаў прыводзіць да парушэння статус-кво — якое б там яно ні было. Гэта не азначае, аднак, што яно непарушнае. Прырода паставіла яго інакш. Кожны від на Зямлі мае свае ўласныя спецыфічныя бытавыя выбары. Рэзкае павелічэнне папуляцыі аднаго з іх у любой экасістэме выклікае парушэнне тонкай біялагічнай раўнавагі. Такім чынам біяэкалагічныя сферы, якія самі па сабе з'яўляюцца царствамі дамінуючага віду ці відаў жывучых разам, перажываюць радыкальныя змены. Толькі што выйгрышныя папуляцыі, як і недабіткі пераможаных папуляцый мусяць адаптавацца да новых умоў навакольнага асяроддзя і міжвідавых. Часам, аднак, не ў стане вырашаць новыя задачы і, натуральна, чэзнуць. Гэтыя працэсы з'яўляюцца цыклічнымі, але тое, што варта падкрэсліць, яны коцяцца як у экасферы, так і ў гомасферы. Цыклічныя з'яўляюцца нашэсці ў свеце насякомых, цыклічныя інвазіі ў чалавечым свеце. Міграцыйны неспакой хваравіта кранаючы сучасную Еўропу, здаецца быць звязаным з тымі ж механізмамі, якімі таемна рэгулюе Натура ў прыродзе. Гісторыя, як і Натура, любіць паўтарацца.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Мы грыбнікі – не бульбашы!

Ужо заракаўся сам для сябе, што пра грыбы больш пісаць не буду. Але, куды ты дзенешся, калі пра іх гавораць усе, дзе не прыкласці вуха. На мінулым тыдні прыйшлося мне схадзіць у адну з медыцынскіх установ. Ужо на выхадзе з дома трох суседзяў паспела паставіць мне пытанне: калі быў я ў грыбах і колькі баравікоў прывалок дахаты? Самі пры нагодзе пахваліліся здабыткамі сезона — больш за тысячу штук. На мой адказ, віншаванні і пытанне, а дзе ж ім так пашчасціла, круцілі згодна: «а, там дзесьці пад Гарадком ці Крынкамі». Тут у іх верх брала сапраўдная натура грыбнікоў. Грыбнік нікому другому не скажа пра свае самыя скрытыя, грыбныя месцы. Усе размовы і ўказанні на гэты конт вядуцца на вельмі дыпламатычнай, агульнай ноце, якая не набліжае да ўдакладнення дэталёвых месцаў грыбной прасторы. Усе віды грыбоў маюць свае любімыя месцы росту. А ў сувязі з гэтым, калі грыбнік-паляўнічы гадамі вызначыцца з такімі чараздзейнымі месцамі, то нават пры найбольш засушлівым і неўраджайным леце ў ягоным кошыку заўсёды будзе іх столькі, каб самому хапіла на калядныя стравы, а нават абдараваць бязгрыбных у гэты момант сямейнікаў. Павага і аўтарытэт для такога майстра грыбной справы ўзрастае не толькі ў вузкім крузе сямейнікаў, але і разыходзіцца па блізкім і далейшым наваколлі. Ясна, што ў іншых заўзятых грыбнікоў такія поспехі канкурэнцыі выклікаюць павышаны ціск і скрыгатанне зубамі.

Вернемся яшчэ да згаданага мною мінулага тыдня. Пяць гадзін чакання ў чарзе да лекара заўсёды з'яўляецца нагодай для выслухоўвання неверагодных гісторый хвароб, ад якіх можна яшчэ цяжэй захварэць, або займець трохдзённую дэпрэсію са стапрацэнтнай упэўненасцю. Але на шчасце апрача хвароб размовы вяліся і пра... грыбы. Пра бульбу ніхто і не заікнуўся. На тварах стомленых чаканнем людзей грыбныя справы выклікалі ўспаміны маладосці і мінулага месяца. Усмешка, жарт і менш нерваў — самыя відочныя і адчувальныя прызнакі той атмасферы. Адразу мне падумалася пра грыбатэрапію як пра адзін з важнейшых элементаў лячэння мясцовых людзей і распазнавальных, якасных сімвалаў прамоцыі Падляшша. Усе санаторыі, псіхолагі ці псіхіятры ў рамках сваіх тэрапеўтычных працэдур павінны ўвесці абавязковыя, штодзённыя гадзіны грыбных прагулак. Тады ў залежнасці ад ураджаю грыбоў і прагрэсі рэабілітацыйнай справы трэба было б дазіраваць іх пабольшванне ці паменшванне. Бо мы тут усе «генетычна хворыя» на грыбную ліхаманку. А няўлічанне яе ў катэгорыях эмацыянальна-фізічнага складу здароўя мясцовых абарыгенаў з'яўляецца аграмаднай памылкай пры стаўленні ўсялякіх дыягназаў хваробы. Думаю, што адпаведна разрэкламаваная падляшская грыбатэрапія прыцягнула б да нас тысячы наведвальнікаў з Польшчы і ўсяго свету. Да гэтага грыбныя стравы, а для тых, хто яшчэ можа, пад жараныя ці марынаваныя грыбчыкі падаць і сто грам жытнёвай самагонкі. Эфект грыбной тэрапіі быў бы напэўна задавальняючы як з медыцынскага, так і з асабістага вызначэння саміх карыстальнікаў.

Калі глянуць на беларусаў з другога боку мяжы, то аж надта відавочна, што ад грыбной ліхаманкі яны даўно сталі заложнікамі грыбной справы. Гляньма на тое, чым для жыхароў Беларусі з'яўляюцца сёння грыбы. Апрача генетычнага палявання на іх — гэта харчаванне, грошы і псіхічны адпачынак, а таксама праяўленне грамадскай роўнасці і яе актыўнасці. Уявім сабе, што ў сённяшні час фальшывых навін па ўсёй краіне маланкава грымнула чутка, што ўлады забараняюць бясплатны ўступ у лес за грыбамі і ягадамі — то «грыбная рэвалюцыя» ў Беларусі магла б быць вокамгненным фактам. Не аранжавая, джынсавая, руж ці нейкая яшчэ прыдуманая інтэлектуаламі ці палітолагамі, толькі грыбная — свая, народная. Нават думаю, што забарона садзіць і збіраць бульбу не выклікала б ужо пратэстных выступленняў. У канцы можна яе завезці з Украіны і Польшчы. Таннейшая. Тысячы гарадскіх вяскоўцаў нават уздыхнулі б з палёгкай на такі загад. Бо ўжо мы не бульбашы — а ўсебеларускія грыбнікі!

**Яўген ВАПА**



# Фасты




Роўненька сто дзевяноста гадоў таму варшаўскія газеты пісалі: „Dnia 23 września 1827 roku (w piątek), między godziną 9 a 10 z rana, gdy po większej części mieszkańcy wsi Fastów zajęci byli wybieraniem warzywa w ogrodach, dała się słyszeć nagle wielka explozya w powietrzu wcale wypogodzonym, i zaraz wiele innych powtórzonych, jakby wystrzałów karabinowych, co zwróciło uwagę obecnych na ogrodach i w różnych miejscach na polu pracujących ludzi: po czym nastąpił mocny świst, połączony z dźwiękiem ciał szybko spadających, silne uderzenie w kilku miejscach o ziemię. Zjawienie to zatrwożyło na czas niejaki ludzi, ale po przejściu przestrachu, kiedy jeden z nich odważył się zbliżyć na miejsce spadku i podjął kamień czarny, i ukazał skupionemu ludowi, ten ośmielony rozbiegł się na inne, przez podnoszący się pył zanotowane miejsca”.

I далей: „Wątpliwości nie ulega, że one się przez ogień utworzyły, i że wielka bryła spadła z bardzo znaczney wysokości, (może i z Xsiężyca); dostawszy się zaś do zagęszczoney atmosfery, dla chyżości i tarcia rozpaliła się i pękła. Ztąd powstała pierwsza silna explozya o kilka mil na około słyszana, po czem nastąpiły cząstkowe pękania, podobne do wystrzałów karabinowych, z czego zrobił się huk i szum w powietrzu: że zaś ciepło bardzo wielkie bydź musiało, przeto powierzchnia ich stopiła się i całkowicie lawą się oblała”. Вышэй прыведзеная дата паводле юліянскага календара; паводле грыгарыянскага было гэта 5 кастрычніка.

Падзея лічыцца ўпадкам на Зямлю метэарыта з касмічнай прасторы. І аказваецца, што гэта найважнейшы метэарыт, які зваліўся на тэрыторыю сучаснай Польшчы. Найбольшыя ягоныя абломкі, велічыні курынага яйка, захоўваюцца ў музеях Берліна і Вены. Было іх, вядома, намнога больш, але ў ходзе бурлівых падзей, што прайшлі з таго часу, значная іх колькасць расцерушылася па свеце. У варшаўскім Музеі зямлі захоўваецца абломак вагой каля чатырох грамаў. Ну, і не ўсе ж былі сабраны на палях паміж Фастамі і Кнышынам, бо менавіта на гэтай тэрыторыі яны пападалі. Лічыцца, што гэты метэарыт прыляцеў на Зямлю з планетоіда Веста; арбіты большасці планетоідаў распалажаны паміж Марсам і Юпітарам.

Здарэнне, якое выпала сто дзевяноста гадоў таму каля Фастаў, што ў сямі кіламетрах ад Беластока, з'яўляецца невялічкім эпізодам касмічнага маштабу. Бо ж так, паводле вучоных, фармаваліся планеты, у тым ліку і наша Зямля. Карпатліва згортваючы цягам мільёнаў гадоў усялякія пылінкі, каменьчыкі, валунчыкі ды іншую драбязу, яна сфармавала сваё сённяшняе аблічча. Абломачкі таго метэарыта, які названы Беластокам, спачываюць на нашай зямельцы побач такіх жа абломкаў, якія прыляцелі да нас са шчодрага Космасу процьму гадоў раней...

Пара вяртацца з адлеглага ў часе Космасу ў цяперашняе наша наваколле, значыць у наваколле Фастаў. Даўнымдаўно, у дваццатых-трыццатых гадах XVI стагоддзя летапісец быў так згадваў пра мясцовасць: „Жыгімонт, па Божай міласці кароль Польскі, вялікі князь Літоўскі, Рускі, Прускі, Жамойцкі і іншы. Чыннім вядомым тым нашым лістом, хто на яго гляне, або чытаючы пачуе, сёння і на будучыню каму трэба будзе гэта ведаць. Сказаў перад намі маршалак наш, староста Берасцейскі і Вількіскі і Астрынскі пан Аляксандр Іванавіч Хадкевіч, што даў манастыру свайму царквы Благавешчання Прачыстае сёла свае Хвасты, Парослава, Клевінова...”. А Хадкевічу мясцовасць трапілася даволі нетыпова; Анна Радзюкевіч: „Fasty pierwotnie stanowiły część dóbr białostockich, nadanych dla Raczki Tabutowicza, a później dla jego syna Jana. Jana niestety zabił jego brat Mikołaj. Według dokumentu z 1498, część przypadającą na Jana wziął król Kazimierz Jagiellończyk, co miało miejsce przed 1462 rokiem i nadał Chodkowi Jurewiczowi. W ten sposób Fasty trafiły w ręce Chodkiewiczów...”.

Крыху яшчэ пра этымалогію мясцовасці. „Беластоцкая газета” з 1955 года інфармавала: „Fasty założył w XV wieku




wojewoda nowogródzki i marszałek Wielkiego Księstwa Litewskiego Karol Chodkiewicz. Przybyli tutaj osadnicy zajmowali się hodowlą bydła na podmokłych łąkach, położonych nad rzeką Białą i Supraślą. A ponieważ trawa była gorzka, toteż i bydło było chude i niepozorne. Nazywano je pogardliwie chwostami. Stąd też i wieś pierwotnie otrzymała nazwę Chwosty. Później, w XIX wieku, nazwę Chwosty zmieniono na Fasty”. Слоўнік Каралеўства Польскага: „Fasty, Chwasty, wś nad Supraślą, pow. białostocki, gm. Białostoczek (661 dz. włośc., 34 dm., 392 mk., cerkiew i 67 dz. cerk. Pod wsią na wzgórzu kurhan w kształcie ostrokręgu ściętego”. Пра гэта і ў археалагічным даведніку Мікалая Пакроўскага: „В 1/4 версты от с. Фастов, на вершине горы, есть курган, в форме усеченного конуса; на верху кургана — плоский сверху камень. Гора называется то Марковой, то — Самотеевой, — от имени владевших ею крестьян”.

Калі ў Фастах была ўзведзена царква — дакладна невядома, але мяркуецца, што некалькі дзясяткаў гадоў да заключэння Берасцейскай уніі. А пасля апошняй падзеі фастаўская царква таксама пайшла за берасцейскімі пастановамі, магчыма, што ў той жа сам час, што і згаданы супрасльскі манастыр, значыць у 1614 годзе.

А калі ў храм завіталі пастановы Берасцейскай уніі, то і ягоны інтэр'ер паступова латынізаваўся. Вікіпедыя: „W 1836 wyposażenie unickiej świątyni w Fastach było całkowicie zlatynizowane, nie było w nim żadnych typowych dla obrządku bizantyjskiego utensyliów. Brak ten uzupełniano w kolejnych latach w ramach szerzej zakrojonej akcji usuwania łacińskich elementów wyposażenia z cerkwi unickich w Imperium Rosyjskim i zastępowania ich przedmiotami typowymi dla tradycji prawosławnej. W świątyni fastowskiej nie było Ewangeliarza cerkiewnosłowiańskiego, lecz w języku polskim. W obiekcie nie było ikonostasu, a ołtarz główny na wzór łacińskiego, z postacią Chrystusa niosącego krzyż. Jeden z przechowywanych w świątyni wizerunków przedstawiał św. Franciszka z Asyżu. W cerkwi w Fastach znajdowały się również ławki, a do 1838 — ambona. Ikonostas do świątyni wstawiono w 1837”.

Тадышняя царква ў Фастах была пабудавана бадай два стагоддзі раней, і ў XIX стагоддзі была ўжо ўстарэлай. У палове мая 1863 года згарэла. У даступных мне матэрыялах згадваецца пра гэтую падзею даволі фармальна, аднак гэтая дата падказвае, што яна магла стаць ахвярай грамадскіх напружанняў таго часу. Такім ускосным доказам майго меркавання з'яўляецца высяленне ў Сібір недалёкай вёскі Явароўкі, што з супрацьлеглага боку ракі Супраслі; мабыць, царскія ўлады падазравалі тое самае, што і я.

Новую царкву, драўляную, часовую, паставілі на могілках у 1866 годзе. А мураваную аддалі ў карыстанне ў 1875 годзе. А дваццаць гадоў пазней на месца часовай на могілках была ўзведзена новая, таксама драўляная царкоўка. Фастаўскія цэрквы будаваліся не толькі за сродкі прыхаджан; вялікая грашовая дапамога была звонку, з Пецярбурга і Масквы. Пабудова і асноўнае аснашчэнне мураванай царквы каштавала каля дванаццаці тысяч рублёў, з чаго звыш сямі тысяч дала казна, а звыш трох тысяч маскоўскія царкоўныя спонсары...

Надта асаблівая сітуацыя склалася вакол фастаўскай царквы ў міжваенны перыяд. Праваслаўны прыход у Фастах быў скасаваны ўладамі, вернікаў абслугоўвалі святары з Харошчы. А ў 1928 годзе з'явіўся ў Фастах быццам праваслаўны святар, які, забраўшы ключы ад тамашняй царквы, аб'явіў, што пераймае абодва храмы для ствараньня там уніяцкай парафіі. Ніякія захады праваслаўных у тагачасных улад дзеля вяртання ім царквы не далі станоўчага выніку. Новы гаспадар забараніў не толькі хаваць праваслаўных пакойнікаў на могілках, але нават апекавацца іх магіламі; дазвол мог ён даць толькі ў выпадку канверсіі ў унію. Гэты гаспадар выбраўся з Фастаў толькі ў 1944 годзе, адпраўляючыся разам з нямецкім войскам. У фастаўскія цэрквы вярнуліся праваслаўныя.

Новае завітала ў палове 1950-х гадоў. На фастаўскіх палях пачалася пабудова вялікага тэкстыльнага камбіната, які займеў назву ад назвы вёскі. Тая ж „Беластоцкая газета” пісала: „Potężny będzie kombinat bawełniany w Fastach. Większy od bratniego zakładu w Piotrkowie. Ultra-nowoczesne maszyny dostarcza nam Związek Radziecki. W Białostockich Zakładach Przemysłu Bawełnianego znajdzie pracę kilka tysięcy robotników”. Так было аптымістычненька калісь, да 1990-х гадоў. Зараз у будынках былога камбіната вялікі гандлёвы цэнтр...

Наведаў я Фасты на прыходскае свята Уздзвіжання. Дабраўся я ў такую пару, што ўжо ў невялікую царкву трэба было б папросту пхацца; таму астаўся я навонкі. Прыцаркоўную вулачку абставілі гандлёвыя ларкі з прапановамі для наймалодшага пакалення; магчыма, што тых ларкоў было больш чым пакупнікоў. Але калі фэст, то фэст.

Заглянуў я і на могілкі. Намагільнікі апошняга часу даволі лаканічныя, але захаваныя колішнія, яшчэ з царскага часу, больш змястоўныя. Некаторыя з даўніх сямейных эпітафій заводзяць у хвалюючыя жыццёвыя сюжэты...

Пачаў я згадку пра Фасты ад незвычайнай падзеі касмічнага маштабу. А завяршыць хачу апісаннем даволі цікавай камунікацыйнай развязкі мясцовага пасажырскага транспарту. Менавіта ў вобрубе вёскі знаходзіцца біржа сельскагаспадарчай вытворчасці. Гарадскі беластоцкі аўтобус лініі „7”, які туды заязджае, затрымліваецца каля двух прыпынкаў, якія аддалены ад сябе не больш чым 15 метраў. Вось там і стаяць два слупкі аўтобусных прыпынкаў, абодва для лініі „7”. Адзін з нумарам „719”, другі з нумарам „720”. І нездарма іх два: на кожным свой расклад язды аўтобусаў — і яны розныя! Які ж быў бы сэнс каб яны былі ідэнтычныя — тады дастатковы быў бы адзін толькі прыпынак. Але сэнс ёсць — з аднаго прыпынку аўтобусы едуць у напрамку Фастаў, з другога — у напрамку Беластока. Такім чынам некаторыя курсы павінны спыняцца на прыпынку „719”, іншыя — на прыпынку „720”. Паміж імі лавачка-пачакальня, адна. А магло б быць і іх дзве...

А ўсё ж гэта пачалося ў бязмежным часе з прыбываючых з бязмежжа метэарытаў. А пасля з'явіліся курганы, рэчкі, трава, хвасты, Беласток, kombinat bawełniany...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## Я дапамагаю распаўсюджваць „Ніву"

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета зараз мала хто робіць падпіску на родную „Ніву". Адыходзяць ад нас старэйшыя пастаянныя чытачы-падпісчыкі, як, напрыклад, святой памяці Уладзімір Клімюк з Плянты. Падпісваецца на „Ніву" ад самага пачатку яе існавання Яўгенія Аліхвер са Старога Ляўкова.

Я пастаянна распаўсюджваю „Ніву" шмат гадоў. А час няўмольна бяжыць і бяжыць. Цешуся, што гады мае не прайшлі дарма, што рабіў і раблю карысную справу для роднай газеты. Дзевятнаццаць экземпляраў „Нівы" №№ 35 і 36 — адзін з канца жніўня і другі з пачатку верасня гэтага года атрымалі ад мяне чытачы з Новага Ляўкова, Нараўкі, Плянты і Свінарояў. Некаторыя з чытачоў прыпаміналі мне, каб не забыў наведаць іх з родным часопісам. Артыкулы і допісы ў 36 нумары „Нівы" чыталі войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч і сакратар гміны Міхал Бароўскі. Я тады якраз зайшоў у гміннае ўпраўленне.

Варта дадаць, што „Ніву" купляюць усе паэты Нараўчанскай гміны (іх дзевяць). Жывуць яны ў Альхоўцы, Лешуках, Міхнаўцы, Нараўцы, Новінах, Новым Ляўкове, Плянце, Семяноўцы і ў Тарнопалі. Вось добра было б, каб яны пачалі распаўсюджваць цікавы беларускі часопіс. У ім столькі пра нас, беларусаў, тут друкуюцца лепшыя паэтычныя творы і проза айчынных і замежных паэтаў і празаікаў. Хто з нараўчанскіх паэтаў возьме сабе да сэрца мой заклік?

1 верасня г. г. здарылася так: наш шматгадовы ніўскі карэспандэнт Мікалай Варанецкі з Альхоўкі прыехаў на ровары ў Нараўку купіць „Ніву" № 36 ад 3 верасня са сваім допісам і зайшоў у краму ГС каля мясцовага помніка, а там яму сказалі, што яшчэ ўчора ўсе экземпляры купіў для новаляўкоўскіх ды з суседніх з Новым Ляўковам вёсак чытачоў ніжэйпадпісаны. Параілі яму схадзіць на пошту або ў вялікую краму „Аргелян" на другім беразе ракі Нараўкі. У „Аргеляне" „Ніва" яшчэ была на паліцы. Два апошнія яе экземпляры я купіў 5 верасня г. г.

Шматлікія жыхары Нараўшчыны маюць уласныя аўтамашыны і яны па родны часопіс могуць з'ездзіць у Гайнаўку ды пры нагодзе ў павятовым горадзе аформіць іншыя справы. Мне гэта цяжэй, не маю аўтамашыны. Езджу ў Нараўку (6 км) і ў іншыя вёскі на ровары. Летам і зімой. Як на прагулку. Што там, калі маю за сабой толькі... 70 гадоў жыцця. У метрыцы ўпісалі крыху больш. Памылкі ж здараюцца. У дакуменце, які выдалі майму бацьку ў ЗАГСе, калі я ішоў у першы клас, было напісана, што я нарадзіўся ў верасні. У наступным, які там жа выдалі, калі я паступаў у сярэднюю школу, напісалі, што я нарадзіўся ў жніўні. Пра мой узрост не будзем тады спрачацца. Я нарадзіўся і ўсё. Мама казала, што якраз была ў полі і жала авёс. Пасля родаў паклала мяне на снап аўса а затым ужо з бацькам панеслі дадому.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Вырашыўся плебісцыт «Віртуальныя гуслі»

Лаўрэатам сёлетняга плебісцыту «Віртульныя гуслі» з'яўляецца кружэлка калектыву «Варшаўскі аркестр сентыментальны» пад назвай Umówmy się na dziś. Урачыстае ўручэнне прыза адбылося ў Варшаве 27 верасня 2017 года, дзе лаўрэат выступіў на фестывалі «Крыжаванне культур» у рамках канцэрта «Sounds Like Poland». Гэта ўжо шаснаццатае выданне плебісцыту. Першае мерапрыемства праходзіла ў 2003 годзе, а пераможцам аказалася кружэлка Hulaj póki czas гурту «Чарамшына».

**(УС)**

# Фэст на фэст у Орлі



**Беларускі народны фэст «Арлянскія сустрэчы» ў Орлі пачаўся ў суботу 2 верасня каля гадзіны 15.20 традыцыйнай песняй «Орля, Орля» ў сумесным выкананні калектываў «Арляне», «Вэрвочкі», «Фэрмата», «1/3» і «Малінкі».**

Вядучая фэст Эдыта Русіновіч з Орлі запрасіла на сцэну войта Пятра Сэльвесюка, які сказаў:

— Шаноўныя жыхары, шаноўныя госці, шаноўнае спадарства — сардэчна вітаю ўсіх на чарговым ужо фэсце «Арлянскія сустрэчы». (...) Шаноўнае спадарства, у часе папярэдніх нашых сустрэч з культурай я неаднаразова згадваў, што адной з адметнасцей Арлянскай гміны з'яўляецца шматкультурнасць, суіснаванне адрозных традыцый і абычаяў. Гэтакае становішча з'яўляецца спадчынай ад мінуўшчыны і несумненна адлюстроўваецца ў штодзённым жыцці жыхароў Орлі і ваколля. Арлянская гміна з'яўляецца тым асаблівым месцам, дзе імкненне да мадэрнасці і развіцця папаўняе падтрымка і захоўванне багатай і разнастайнай культурнай спадчыны. Побач нас узводзіцца мадэрны будынак Цэнтра культуры. Тут мае быць месца стварэння і распаўсюду розных галін культуры і мастацтва, месца падтрымкі культурных традыцый гэтых земель, а асабліва нашай гміны, а таксама месца міжпакаленневай інтэграцыі жыхароў. Хачу, каб гэты асяродак стаў у будучыні цэнтрам, які засяродзіць жыццё беларускай і іншых меншасцей, бо такіх асяродкаў у гэтай частцы нашага ваяводства, паводле майго меркавання, замала.

Чарговым выступоўцам быў Юрый Булгакоў, саветнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэчы Паспалітай, які сказаў:

— Шэсць-сем гадоў таму быў я тут упершыню і з тае пары я пад вялікім уражаннем ад таго, што тут адбываецца. Галоўнае, што гэта робіцца з сэрцам, з душою, вельмі шчыра. І што гэтая любоў да беларускай культуры плыве з глыбінь вашых сэрцаў. Жадаю вам, каб усё вы захавалі, каб гэты фестываль і іншыя мерапрыемствы з беларускай культурай адбываліся часцей, чым толькі раз у год. Жадаю вам усяго самага найлепшага, мірнага неба над галавою, што напэўна зараз вельмі важна, і дабрабыту ў вашых сем'ях, каб дзеці былі здаровыя і вы жылі багата. Вялікае дзякуй!

Далей голас узяў Валенты Карыцкі, радны Падляшскага ваяводства:

— Спадар войт сказаў, што ў Орлі незвычайныя людзі. Сапраўды — кажу так крыху карысліва, бо мая мама нарадзілася ў гэтай гміне, дзедка з бабуляй пахаваны ў Чахах-Забалотных, такім чынам я ў генетычным сваяцтве з жыхарамі Арлянскай гміны, ад чаго ў мяне радасць і гонар. У пачатку гэтых сустрэч выступілі на сцэне калектывы ў розным узроставым дыяпазоне, пачынаючы з дзяцей школьнага ўзросту па пажылыя асобы.

Чарговым прамоўцам быў Войцех Пшыгоньскі, упаўнаважаны ваяводы па справах нацыянальных меншасцей:

— Гэта вельмі важна, што меншасці нашага рэгіёна маюць такія сталыя месцы, дзе могуць выказваць чым душа поўніцца, што важнае ў іх традыцыі і тоесасці. Жадаю ўдзельнікам удалых выступленняў і вам добрай забавы, каб сустрэча служыла культурнаму дыялогу, лепшаму зразуменню гэтай нашай рэгіянальнай разнароднасці. Усяго добрага!

Пачалася мастацкая частка фэсту. Першым выступіў калектыў «1/3» вучняў трох першых класаў пачатковага навучання. Чарговымі былі «Арляне», за якімі 70 гадоў мастацкай дзейнасці. Пасля запрэзентавалася танцавальная група «Байка» з Комплексу школ у Орлі, за ім калектыў «Фэрмата» вучняў гімназіі ды «Малінкі» з Маліннік. Потым былі абнародаваны вынікі лджанага войтам конкурсу на найпрыгажэйшую сядзібу; у конкурсе, завершаным 17 жніўня, прынялі ўдзел сем прэтэндэнтаў.

Чарговым выступіў калектыў маладых людзей з Гайнаўкі «Давід Шымчук Бэнд», пасля яго «Чыжавяне» з суседняй гміны. Далей выступілі мясцовыя «Вэрвачкі» — калектыў, які заўсёды вельмі падабаецца публіцы, а назву прыняў ад сяла Вэрвачкі, што было побач Орлі, якога ўжо, на жаль, няма (жыхары памерлі ад эпідэміі халеры). І гэта адзіныя асобы, якія ўспамінаюць пра тадышніх жыхароў (трагічна памерлыя не маюць нават свайго могільніка, расце там лес, ніхто за іх не моліцца, не запальвае свечак). Хвала калектыву, хаця публікацыі пра гісторыю вёскі распаўсюдзіў я ў беларускіх газетах. На заканчэнне да калектыву далучыліся яшчэ дзяўчаты з «Фэрматы» і супольна праспявалі яшчэ дзве песні. Выступіў яшчэ калектыў «Оморфос» з Сямятыч. Зоркамі былі два калектывы: «Бацька атаман» з Беларусі, які даў цудоўны канцэрт песні і танцаў з шаблямі — людзі запісвалі канцэрт, а пасля маглі купіць пласцінкі. «Чарамшына» таксама дала выдатны канцэрт, знакаміта забаўляючы старэйшую і маладую публіку.

Былі прамацыйныя ларкі з сябroўскіх гмін, ларкі з народным рукадзеллем. У адпачынковым парку можна было паглядзець фотавыстаўку «Па слядах нашага Падляшша», лджанаю Маршалкоўскай управай і фондам «Забытае Падляшша», а на агароджы гульнёвай пляцоўкі другую фотавыставу «Шматкультурнасць у маіх вачах» аўтарства дзяцей.

Хаця надвор'е паспрыяла памяркоўна (было хмарна), публікі было шмат. Калі пацямнела, неба, як штогод, рассвятлілі каляровыя феерверкі.

Усё пайшло па думцы арганізатараў. За парадкам сачыла ахоўніцкая фірма ды гмінныя працаўнікі. Беларуская музыка прыцягвае, кожны мог сабе нешта ўпадабаць, а танцавальная забава — іграў калектыў «Лайланд» з Беластока — закончылася амаль дзве гадзіны пасля поўначы. Святло на вуліцах было ўключана цэлую ноч і ўсю ноч людзі гулялі. А каму было мала — Орля запрашае за год.



Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

# Мае 2000-я гады

## і 17 маіх самых яркіх сімвалаў таго часу

**СТУДЭНЦКІ ІНТЭРНАТ**

Гэта быў першы беластоцкі будынак, у якім самастойна, здалёк ад бацькоў і далёка ад роднай хаты жылі студэнты з цэлай Польшчы, а таксама з Беларусі, Літвы і Украіны. Студэнтаў найбольш інтэгравалі калідор студэнцкага інтэрната і кухня. Тут пачыналіся імпрэзы, канцэрты на гітары, гутаркі з суседзямі, сяброўства, каханне. Пасля першай ночы ў інтэрнаце я думаў кінуць там жыць, а ў апошні дзень шкада было пакідаць месца, дзе я жыў пяць гадоў. Студэнцтва — найпрыгажэйшы і найбольш творчы час у жыцці. Не шкадую, што я быў студэнтам і жыў у студэнцкім інтэрнаце.



**БАЗАР НА ЮРАВЕЦКАЙ**

Беластоцкі варыянт варшаўскага базару «Стадыён Дзесяцігоддзя». Тут усё можна было купіць: вопратку, свежую садавіну і гародніну, кампакт-дыскі, газеты ды ўсякую ўсячыну. Абавязковы пункт пакупак беднага студэнта. Калі з 2007 да 2013 года пляц стаяў пусты, то ў Беластоку гаварылася, што гэта прадаўцы з базару на Юравецкай так праклялі ліквідаваны ў 2007 годзе базар, што на гэтым месцы нічога не пабудуецца. Аднак год назад адкрылі чарговую гандлёвую галерэю, гэтым разам менавіта на Юравецкай. Не надта многа гандлёвых галерэй і супермаркетаў у нашым Беластоку?

**ПЕРШЫ КАМП'ЮТАР**

Першы камп'ютар у маёй хаце з'явіўся пасля 2000 года. На ім мог я пісаць і друкаваць вершы, тэксты песень, глядзець фільмы і відэакліпы, а таксама слухаць музыку. На гэты час была гэта своеасаблівая тэхналагічная рэвалюцыя. Аднак першы раз я пакарыстаўся інтэрнэтам на пачатку 2002 года. Калісьці ў 2005 годзе рэдактар «Нівы» Віталь Луба казаў, што прыйдзе час і на вёсках будзе інтэрнэт. На гэта трэба было пачакаць некалькі гадоў.

**ГУРТ :B:N:**

Ніводны беларускі рок-гурт так мне не спадабаўся, як :B:N: (інакш «Бяз назвы»), таму ў рэдакцыі «Нівы» я купіў іх першы альбом «Не трывай» і круціў яго безупынна ўвесь 2004 і 2005 год. Падабалася мне музыка, энергетыка песень, гук гітар, паэтычныя тэксты і вакал хлопцаў родам з Бярозы. Я ім нават прысвяціў свой верш «Я танчу», які друкаваўся ў «Дзеяслове». Шкада, што наступныя альбомы бээнаўцаў аказаліся намнога слабейшымі ад кружэлкі «Не трывай».

**ФАРМАТ MP3**

Пасля 2000 года фармат кадавання лічбавага гуку mp3 рэвалюцыянізаваў музыку. На адным кампакт-дыску аўдыё магло памесціцца больш за 200 песень, а на дыску DVD — нават 4 тысячы! Пачалася смерць арыгінальных кампакт-дыскаў.

**РАДЫЁ «СТАЛІЦА»**

Самае папулярнае на Беласточчыне беларускае радыё з Беларусі. Слухалі яго жыхары прыгранічных вёсак і мястэчак Бельшчыны і Гайнаўшчыны з 2000 да 2003 года. Пазней зышло яно на ніжні дыяпазон FM і прапала. Вядучыя гэтай радыёстанцыі ўключалі модную поп-музыку і размаўлялі выключна на чыстай беларускай мове. Нядаўна я ўвайшоў на іх сайт. Радыё «Сталіца» надалей вяшчае на беларускай мове, толькі замест поп-музыкі прамуе рок. Вяшчае таксама на Падляшшы. Можа і добра?

**КАМПАКТ-ДЫСК**

Яшчэ ў 1990-х гадах з'явіліся кампакт-дыскі, але амаль іх ніхто не купляў. Тады цана аднаго арыгінальнага кампакт-дыска пачыналася з 20 злотых і больш. Пасля 2000 года кампакт-дыскі патаннелі і каштавалі каля 15 злотых. Таму ўсе перасталі купляць магнітафонныя аўдыёкасеты.

**ГРУПА «ЛЮБЭ»**

Культавая руская група жанру шансон. Рускай групай «Любэ» я захапіўся, дзякуючы майму сябру — беларусу Аляксею, калі ў канцы 2003 года ўключыў ён мне на старой перапісанай некалькі разоў аўдыёкасеце песні люберцаў. У той самы час на занятках па рускай мове д-р Ніна Рачкевіч гаварыла пра рускую музыку. Я пазычыў у яе нумар штодзёнкі «Gazeta Wyborcza» менавіта прысвечанай групе «Любэ», які адксераваў. З гэтай пары я сабраў усю калекцыю іх арыгінальных кампакт-дыскаў, усе іх DVD-канцэрты. Падабаецца мне ў іх музычны прафесіяналізм, вельмі добрыя тэксты. Пра іх не раз я пісаў на сваім блогу muzykaslowian.bloog.pl.

**ПЕРШЫ МАБІЛЬНЫ ТЭЛЕФОН**

У мяне першы мабільны тэлефон з'явіўся дзесьці ў 2002 годзе. У ім былі толькі функцыі пісаць смс, званіць і вельмі простая ігра. Быў гэты самы танны апарат і каштаваў больш за 200 злотых. Зараз мой самы новы тэлефон гэта амаль кішэнны камп'ютар.

**ГІТАРА**

Першую сваю гітару купіў я 16 ліпеня 2003 года. Не дзеля таго, каб запісваць свае песні пад акампанемент гітары, якія я пачаў пісаць яшчэ ў 1990-я гады. Проста я быў вельмі захоплены ігрой на гітары, калі пад яе гукі можа гуляць цэлы студэнцкі інтэрнат. Навучыўся я на ёй іграць, дзякуючы «Фольклорнаму спеўніку», выдадзеным праваслаўным брацтвам, а таксама дзякуючы песням груп «Lady Pank» і «Любэ».

**ПРАВАСЛАЎНАЕ БРАЦТВА**

Калі я пачаў жыць у студэнцкім інтэрнаце, дык заўважыў, што большасць жыхароў майго інтэрната гэта студэнты каталіцкага веравызнання, а да таго не мае землякі. Таму я восенню 2001 года адразу выбраўся на сход студэнцкага праваслаўнага брацтва і там я знайшоў «сваіх» — праваслаўных равеснікаў, з якімі я шчыра пасябраваў. Думаю, што ў радах праваслаўнага брацтва я пазнаёміўся з вельмі вартаснымі людзьмі.

**УКРАІНСКІ ФОЛЬК-РОК**

Дзякуючы сябру з праваслаўнага брацтва я пазнаёміўся з украінскай музыкай фольк-рок з Польшчы і Украіны. Я стаў фанатам такіх груп як «Горпына», «Бэркут» з Ольштына ці нашай падляшскай «Чарамшыны». Я іх нават бачыў ужывую на ўкраінскім «Купаллі» ў Дубічах-Царкоўных. Палюбіў я таксама слухаць украінскі рок і панк-рок: «Воплі Видоплясова», «Океан Єльзи», «Скрябін», «Друга Ріка». Іх песні я круціў безупынна на сваім mp3-плэеры ў 2006-2009 гадах. У 2006 годзе свой феномен перажывала ўкраінская панк-група «Фліт», якая іграла канцэрты на Падляшшы. Шкада, што два гады таму назад у аўтакатастрофе загінуў Андрый Кузьміненка — лідар і вакаліст групы «Скрябін».

**ЛІЧБАВЫ ФОТААПАРАТ**

Гэта адзіны фотаапарат, на якім можна рабіць колькі хочаш здымкаў, каб выбраць найпрыгажэйшыя і ўкінуць іх на камп'ютар. Мой сябар на лічбавым фотаапараце ў 2004 годзе зняў відэакліп да маёй песні «Карта лёсу». Тады ніхто не думаў, што яшчэ за пару гадоў у кожным мабільным тэлефоне будуць таксама фотаапарат і відэакамера.

**ІМПРЭЗЫ**

Калі ў кастрычніку 2000 года стаў я студэнтам Беластоцкага ўніверсітэта і пачаў жыць у інтэрнэце, дык пазнаў многа сяброў. Імпрэзы здараліся з нагоды дня нараджэння, імянін, Ювеналій, Аркестра святочнай дапамогі Ежы Оўсяка, Новага года або і без нагоды — разам з таксама як і з маладымі людзьмі, з розных курсаў.

**МАЕ ЗБОРНІКІ ПАЭЗІІ**

У канцы чэрвеня 2005 года, дзякуючы прафесару Яну Чыквіну і прафесар Галіне Тварановіч (якія з'яўляюцца рэдактарамі і выдаўцамі кніг «белавежцаў») свет пабачыў мой першы паэтычны зборнік «Субота ў Малінніках». З гэтай нагоды Гайнаўскі белліцэй запрасіў мяне на першую аўтарскую сустрэчу, якая адбылася ў сакавіку 2006 года. Дарэчы з 2002 года я стаў членам Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». У 2009 г. з'явіўся мой другі зборнік — «Самота дажджу».

**БЕЛАРУСКАЕ «КУПАЛЛЕ» Ў БЕЛАВЕЖЫ**

Штогод перад праваслаўным святам Яна, перад 7 ліпеня, мы з сябрамі з праваслаўнага брацтва ездзілі ў Белавежу, дзе і да гэтай пары адбываецца беларускае «Купалле», арганізаванае БГКТ. Там можна было пагуляць да рання пры беларускай музыцы ў выкананні гуртоў з Беласточчыны, а таксама і з Беларусі. Вярталіся мы заўсёды над раннем, калі ўзыходзіла сонца.

**БЕЛАРУСКІЯ ДЫСКАТЭКІ**

Гэта самыя папулярныя беларускія маладзёжныя імпрэзы, якія з 2003 года арганізуе сайт http://www.bi.hg.pl/. На гэтым сайце можна было паглядзець хто з кім танцаваў на дыскатэцы і г.д. Такі падляшскі pudelek.pl. На гэтыя імпрэзы ў легендарны беластоцкі клуб «Premiera 2000» хадзіла большасць членаў студэнцкага праваслаўнага брацтва. Там выступала большасць беларускіх гуртоў з Падляшша, а гуляла моладзь з усёй Беласточчыны. Папулярнымі надалей з'яўляюцца запусты перад Вялікім і Піліпавым пастамі, праваслаўны Новы год, Раство і Вялікдзень.

Следам за клубам «Premiera 2000» беларускія мерапрыемствы сталі арганізаваць такія клубы як «Gwint», «Heven», «Touch», «Exit», «Prognozy» і іншыя беластоцкія дыскатэкі. Аднак першыя беларускія дыскатэкі яшчэ ў 1990-х гадах арганізавала БГКТ.

❖ **Юрка БУЙНЮК**

## Збірайма зёлкі восенню

Альжбета Калэцкая вядзе пункт скупкі лячэбных зёлак у Нараўцы, Гайнаўскага павета. Сёлета найбольш купіла, між іншым, лісця крапівы, цвету і зелля залатой розгі (nawłoci), зелля спірэі (tawuły) ды карэння адуванчыка.

Цяпер на пунктах купляюць перш за ўсё сушанае лісце ажыны, маліны, суніцы, крапівы, мядункі і адуванчыка, цвет стакроткі, кару каліны і крушыны, карэнне аеру, адуванчыка, лопуху, пяцёрніку і жывакосту ды зелле мядункі, ясноткі (глухой крапівы), крапівы, адуванчыка, святаяннiку, чабору.

І так, за кілаграм зелля мядункі плацяць 15 злотых, палыну — 4 зл., святаянніку (dziurawca) — 3,70 зл. і верасу — 3 зл., за цвет стакроткі — 30 зл., чырвонай канюшыны — 20 зл., верасу — 18 зл., за лісце суніцы — 10 зл., крапівы ды ажыны — па 7 зл., глухой крапівы — 7,50 зл. і маліны — 6 зл., за карэнне адуванчыка, пяцёрніку і лопуху — па 12 зл., аеру — 8 зл., конскага шчаўуху (kobylaka) — 7 зл. ды жывакосту — 5 зл., за кару каліны — 14 зл. і крушыны — 3,50 зл.

Зараз на нашым рынку даступныя розныя зёлкавыя лякарствы, гарбаткі, касметыка, сіропы ды прыправы для страў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## На грыбы

Жнівеньская цеплыня, затым дажджавое надвор'е паспрыяла грыбнікам. Ужо з пачаткам верасня пачаўся грыбны сезон. У нядзелю 3 верасня, напрыклад, прыяцель дачкі на адвячорку прывёз мне для сушэння пяць пакетаў мажных баравікоў. Пасля падліку аказалася іх 578 штук. Такога збірання грыбоў я не бачыў. Зараз мае сямейнікі штодзень забягаюць у лясы ў наваколлі Чаромхі і прыносяць поўныя пакеты баравікоў і махавікоў (падгжыбкаў). Прыбытак нядрэнны. На скупцы свежыя лустачкі (краянка) махавікоў плацяцца па 5 зл. за кілаграм, а белыя баравікі па 8 зл. У дзень





двое чалавек можа зарабіць каля трох соцень злотых. Душа мая разрываецца да болю, таму што я не ў змозе пакарыстацца гэтымі дарамі натуры. Балючыя ногі мяне не слухаюць. Суцяшае мяне адно, што за агароджай маёй сядзібы пралягае шырокая паласа сасновага лесу, а на неараным полі красуецца мselect маладая самасейныя хвойнік. Гэта мой грыбны палетак. Ад трох гадоў збіраю там мажныя баравікі, маслякі, грыбы-парасончыкі ды падбярозавікі. Правяраю палетак кожныя два дні і прыношу вось такія, як на здымку, грыбы. Каб адно грыбны сезон дожыўся ўсю восень.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Ваўчок-Маўчок «па-свойму»!



— Mamo, a zwierzęta w Puszczy Białowieskiej rozmawiają po białorusku?

— Tak, tak... — адказала матуля і сама да сябе засмяялася.

Гэтыя словы прагучалі пасля спектакля «Ваўчок-Маўчок» (*Vovčok-Movčok*), які паказаў знакаміты дуэт акцёраў: Іаанна Троц і Тамаш Таранта.

П'еса апавядае пра ваўчаня, якое адбілася ад ватагі і самотна вандруе праз пушчу. На яго дарозе з'яўляюцца жыхары лесу: птушкі, авадні, паўзуны, вялікія і малыя звяры. Яны апавядаюць пра сябе.

Вось, жураўлі, калі выклёўваюцца ў двое дзяцей, разыходзяцца. Маці жыве з адным жураўляняткам у сваім гняздзе, а бацька з другім у асобным гняздзе.

Чаму?

Маленькія жураўлікі вельмі сварлівыя. Іх нельга пакінуць адных у гняздзе, таму што яны маглі б задзяўбці адзін аднаго насмерць. Але з часам, калі падрастуць, выпраўляюцца іх характары. Бацькі і маладыя зноў сыходзяцца жыць у адным гняздзе. Яны вучаць лятаць маладых і разам здабываюць яду. Дарослыя жураўлі — незвычайныя птушкі. Яны дабіраюцца ў пары на ўсё жыццё.

У падобным духу распавядаюць свае гісторыі іншыя лясныя жыхары: жабаквачка, вусень, мухалоўка. Галоўны герой, Ваўчок-Маўчок, хоць сам дзікі, драпежны звярок, мае ўражлівае сэрца. Ён з аднолькавай увагай выслухоўвае гісторыі безабароннага вусеня і караля пушчы зубра. Сам наблізіцца да людзей і завядзе сяброўства з лясной дзяўчынкай. Праўда, ніколі не стане хатнім сабакам. На гэта не дазволіць яго воўчая, свабодалюбівая душа.



Жыццё Ваўчка-Маўчка, безупынна мяняецца, таму і фінал нечаканы і дзіўны... Але пра гэта пакуль, змаўчым. Неўзабаве, усё пабачыце самі!

Спектакль увайшоў на сцэну 26 верасня г.г. Яго прэм'ера адбылася ў Драматычным тэатры ў Беластоку, у рамках IV Тэатральнага фестывалю «Одэ». Пастаноўка прагучала на падляшскай мове. Яе аснову склала дзіцячая кніжка «Wilczek-Milczek» аўтарства Баґдана Дудко, сцэнарый да п'есы напісала Дагмара Віданаў, які ў сваю чаргу на падляшскую мову пераклаў Ян Максімюк. У пастаноўцы казачная сцэнаграфія аўтарства Луцыі Гжэшчык. Макеты звяроў сярод старых дрэў ажыўляюць «палёты» разнаколерных матылёў і птушак.

Як мы ўжо сказалі, у ролі лясных герояў увасобіліся знакамітыя акцёры Іаанна Троц і Тамаш Таранта. Запоўненая да апошняга месца зала не шкадавала апладысментаў. Малыя і дарослыя гледачы нанова зірнулі на наш рэгіянальны скарб — Белавежскую пушчу. Гэта не толькі дрымучы лес. Пушча — гэта дом соцень тысяч малых і вялікіх звяроў, раслін, птушак. На беластоцкай сцэне ўсе яны прамовілі на мове людзей, якія ад стагоддзяў даглядалі і сцераглі Белавежскую пушчу. Таму сярод публікі мы сустрэлі многіх вучняў беластоцкай «чацвёркі» і дашкольнікаў беларускага садка, для якіх пастаноўка прагучала знаёма і па-свойску.

Спектакль «Ваўчок-Маўчок» распавядае пра моц сяброўства, якое не дазволіць загінуць у цёмным і страшным лесе. Ужо гэтай восенню акцёры наладзяць турнэ па рэгіёне. Таму не праваронце нагоды ды абавязкова схадзіце на гэты жывы і каларытны спектакль. Найлепш разам з бабуляй або дзядулем. Яны дакажуць усё тое, чаго вы не зразумееце са звярыных маналогаў.

**ЗОРКА, фота racyja.com**

Паўлюк Пранузa

## Восень дрэва падпаліла

Свеце брат сказаў Даніла:  
— Восень дрэвы падпаліла.  
І яна сама ў скверык  
Завітала, каб праверыць...  
Пэўна, здагадаўся вецер,  
Што лісток патрэбны Свеце.  
Ён дыхнуў — і з шапкі клёна  
Ліст упаў, як жар чырвоны.  
Яго Света падымае,  
Ён... халодны. А палае.

# Пабывалі ў тэатры і ў «Ніве»

Кажуць, здалёк лепш відаць! Нам таксама трэба ад’ехаць ад роднай хаты, каб належным чынам ацаніць яе каштоўнасць. На месцы ўсё здаецца звычайным.

У падобны спосаб думаем пра людзей з роднага горада.

27 верасня наведалі нас сямікласнікі з бельскай «тройкі». Раней пабывалі на спектаклі «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч», які паставілі іх старэйшыя сябры ў Драматычным тэатры.

Гэта была сапраўдная гасціна для вока і душы.

Аказалася, што сямікласнікі ўпершыню паглядзелі спектакль пра Яраслава Кастыцэвіча, легендарнага бяльшчаніна і патрона сваёй школы.

— Цяпер буду думаць інакш пра Яраслава Кастыцэвіча, — кажа Вікторыя Гаць. — Ён для мяне ўзор настаўніка. А тое, што ён быў строгі і патрабавальны, гэта таксама добра.

Усе сямікласнікі пагадзіліся з Вікторыяй. А мы, дарослыя, разам з настаўнікамі Андрэем Марозам і Ганнай Фіёнік ажно палюбаваліся такой добра выхаванай і ўсёразумеючай кампаніяй. Многія, як іх старэйшы сябры, таксама хацелі б выступіць у гэтай пастаноўцы, пад кірункам Іаанны Троц. Штосьці такога нельга спампаваць са смартфона, тут патрэбная псіхічная і фізічная актыўнасць і ангажаванасць.

**Зорка**

Фота Ганны Кандрацюк

(пра спектакль напішам у чарговым нумары)

Міра ЛУКША

## Барвовая восень

— Рыжая, рыжая, рудая! —
Засмяяўся хтосьці нізка.
І з сасны іскраю збягае
Вавёрачка з цікаўнай пыскай.

А хто пад дрэвам там палае
Халодным полымем асеннім?
На шапцы кропля расы іграе,
У імху ўкленчыў на калена.

Агонь скідаюць долу клёны,
Бяроза золатам шастае,
Сыта сапе ўвесь бор зялёны,
У прыпол жолуд дуб ссыпае.

Уздула вавёрка рыжы хвост
І цап! — за рыжыкаву шапку.
— Ты сам такі ж руды прахвост!
Трапіш у запасы ў маю хатку!

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Міндаль і каштан

Міндальныя дрэвы – горкія і салодкія, браты адной маці, але ад розных бацькоў. Салодкі міндаль вельмі цураўся свайго горкага брата і ён завёў сяброўства з каштанам. Ён лічыў, што каштан больш яму блізкі па душы.

Калі многія дрэвы дакаралі яго ў здрадзе, ён адказаў:

— Каго я выбраў па сваёй волі, бо так мне падказала сэрца, той для мяне сапраўдны брат. І ніхто не ўмеў даказаць, што гэта не так.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 41-17

**Хто зялёнымі вачамі
Грозна бліскае начамі?
Мае пухленькія лапкі,
А на лапках кіпці-драпкі,
Спінку пругка выгінае,
Страх на мышак наганяе?
К.....**

**(У. Мацвеенка)**

**Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку” да 15 кастрычніка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 37-17: перапёлка. Узнагароду, беларускую кніжку, выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 41-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 37-17:**

Дом, жывот, час, гарлачык, дык, Сі, хабар, пік, эга, драбніца. Ход, вада, рыбка, жылка, Рэн, вочы, Пац, таксі, ікс.

Узнагароды, аўтаручкі, запісныя кніжкі, выйгралі **Дам’ян Карнілюк**, **Магда Якубюк**, **Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Stojak / Stopa | | | | | | Twardziel | Uszy | | Bank / Strona |
| | | | | Czołg / Ania | Kwas / Grosz | | | | |
| Stan / Lenistwo | | | | Grunt / Globus | | | | | |
| | | | Gruszka / Ożywienie | | | | | | |
| | | Lęk / Głóg | | | | | | Złotówka / Nord | |
| | Jak / Pieniądze | | | | | | No / Fan | | |
| | Łub | | | | | Tło | | | |
| | | | | | Park | | | | |
| | Trochę | | | | Anda | | | | |



# XX

## Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XX Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XX Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2017 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2017 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.

Лёсы беларусаў Беласточчыны

# Матэйчукі і Лісоўскія з Агародпічкаў



Феафіла Матэйчук (Лісоўская)



Аляксандр Лісоўскі з дачкой Галінай (маці Алеся Масюка).

З грамадскім актывістам са Слоніма, сябрам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Алесем Масюком знаёмы даўно. Але жывучы ў адным горадзе, я ніколі ў Алеся не пытаўся пра ягоны радавод. А неяк нядаўна зайшла гутарка пра ягонага дзеда з бабуляй. І быў здзіўлены, калі аказалася, што ягоныя прадзядуля і прабабуля, дзядуля і бабуля па маці родам з Беласточчыны з вёскі Агароднічкі Супрасльскай гміны.

І Алесь Масюк пачаў распавядаць. Распавядаць пра тое, што ён ведаў, што ён чуў ад старэйшых сваякоў і ад




Алесь Масюк у роднай вёсцы сваіх дзядоў і прадзедаў

маці. Лёс беларусаў Матэйчукоў з Агароднічкаў у ХХ стагоддзі быў такім складаным і няпростым, як лёс тысяч беларусаў Беласточчыны. Феафіла Матэйчук — бабуля Алеся Масюка, Аляксандр Лісоўскі — дзядуля, Лізавета Матэйчук — прабабуля, Міхаіл Матэйчук — прадзядуля, Паўла Матэйчук — дзядулева мама. Усе яны былі родам з Агароднічкаў.

Феафіла Матэйчук (бабуля Алеся) нарадзілася ў студзені 1908 года ў Агароднічках у сям'і беларускіх сялян. Спачатку ў школу дзяўчына не хадзіла і не вучылася, таму што трэба было дапамагаць па гаспадарцы. Але, калі ёй споўнілася 10 гадоў, бацькі ўсё ж вырашылі аддаць дзяўчынку ў школу. Праўда, вучылася яна нядоўга, таму скончыла толькі два класы. Больш працавала, працавала з раніцы да цямна.

Хутка маленькую Феафілу напаткала вялікае гора — не стала яе бацькі, а калі дзяўчыне споўнілася 17 гадоў — памерла ад тыфу і маці. Дзяўчына засталася круглай сіратой. Таму ўся гаспадарка хутка лягла на яе кволенькія плечы.

У вёсцы Агароднічкі жыў у гэты час і Аляксандр Лісоўскі. Ён нарадзіўся напярэдадні Першай сусветнай вайны — у маі 1914 года. У 1921 годзе паступіў вучыцца ў польскую школу, скончыў 7 класаў. А потым атрымаў спецыяльнасць сталяра. Працаваў па спецыяльнасці.

У 1935 годзе Аляксандр Лісоўскі пайшоў служыць у польскае войска, служыў конным сапёрам. Праз два гады ён вярнуўся ў родныя Агароднічкі. Шмат працаваў на зямлі, выконваў розныя заказы. Там, у Агароднічках, ён і прыкмеціў працаўніцу Феафілу. І хоць яна была за яго старэйшая на 6 гадоў, Аляксандру Лісоўскаму дзяўчына спадабалася. Таму ў 1940 годзе яны пажаніліся. Праўда, сямейнае шчасце доўга не працягвалася — пачалася нямецка-савецкая вайна і Аляксандра Лісоўскага ўзялі на фронт. У гэты час у іх нарадзілася дачка Ларыса.

Аляксандр Лісоўскі прайшоў усю вайну і вярнуўся да любай Феафілы ў Агароднічкі. У іх нарадзілася ў 1945 годзе яшчэ адна дачка, а пазней і сын. Здавалася, што цяпер яны ўсе разам будуць працаваць на зямлі і шчасліва жыць. Але такога шчасця ў сям'і Лісоўскіх зноў не атрымалася. Аднойчы вечарам да іх у хату завіталі палякі і сказалі, каб яны хутка пакінулі Агароднічкі, бо калі яны гэтага не зробяць іх проста застрэляць ці спаляць. Так сям'я Лісоўскіх у канцы 1945 года пакінула Агароднічкі і выехала аж но ў Запарожжа. Але там беларускую сям'ю з Беласточчыны ніхто не чакаў. Ды яшчэ на Запарожжы быў голад. Таму сям'я Лісоўскіх вырашыла хутка вяртацца на Бацькаўшчыну. Але ў родныя Агароднічкі шлях быў закрыты, таму назаўсёды аселі ў Слоніме. Тым больш, што пасля вайны на Слонімшчыне былі патрэбны рабочыя рукі.

У Слоніме Лісоўскія пражылі ўсё астатняе жыццё. Феафіла працавала на розных работах, была нават сакратаром сельскага савета. А Аляксандр займаўся сталярскай справай. Яны ў Слоніме і памерлі.

Па словах Алеся Масюка, яго прабабуля Кацярына Матэйчук нарадзілася ў Агароднічках у 1877 годзе. Адукацыі не мела ніякай, а ўсё жыццё адпрацавала на гаспадарцы. У дваццаць гадоў выйшла замуж і нарадзіла васьмёра дзяцей. Але Бог ёй не даў здароўя і сіл, яна памерла ад тыфу ў 1925 годзе ў Агароднічках.

Муж Кацярыны Матэйчук, Міхаіл Матэйчук, таксама быў родам з Агароднічкаў. Ён быў старэйшы за жонку на 7 гадоў. Меў адукацыю 4 класы. Служыў у арміі. Жаніўся ў 27 гадоў. Жылі Матэйчукі Кацярына і Міхаіл добра, любілі сваю зямлю, сям'ю і людзей. Але лёс іх таксама не песціў...

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Фотаздымкі з архіва Алеся Масюка

# Чаму мова тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь не з'яўляецца рэальна дзяржаўнай




Сёння не знайсці адукаванага, з сярэднім узроўнем жыццёвага досведу чалавека, які не заўважаў бы амаль поўнай адсутнасці беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскай дзейнасці людзей. А тыя, што і заўважаюць гэтую крайне ненармальную, небяспечную для беларускага народа з'яву, не маюць асаблівага жадання не толькі дапамагчы пераадолець яе, але нават грунтоўна паразважаць над завітанай да нас бядой. Не знаходжу ніякага апраўдання, што яшчэ і дасюль самая надзённая праблема — выратаванне беларускай мовы ад сходу ў нябыт — ні разу не з'яўлялася прадметам сур'ёзнага абмеркавання ў самых высокіх уладных структурах, не выключаючы і Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Яны ж штогод абмяркоўваюць процьму самых розных пытанняў, а вось да беларускай мовы — найвялікшай, нічым не заменнай святыні Бацькаўшчыны — не жадаюць прыступіць, хаця яна пільна заслугоўвае такога.

На беларускай зямлі больш за дваццаць гадоў функцыянуе прэзідэнцкая сістэма кіравання, а мы яшчэ не пачулі ад яе першай пяцёркі самых адказных дзяржаўных дзеячаў практычна аніводнай прамовы, выказанай родным словам! Вось і думай: свядома зневажаюць яго, ці кагосьці баяцца, каб не палічылі за нацыяналіста?

У сапраўднага палітыка няма больш пачэснага, ганаровага абавязку, як са сваім дзяржаўным народам гаварыць на яго базавай роднай мове, а не на якойнебудзь іншай занесенай знадворку дый яшчэ беспадстаўна ўзведзенай у ранг другой дзяржаўнай мовы. Прыкладам можа служыць прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін. Дзеля паднняцця прэстыжу, абароны рускай мовы ён зрабіў не менш за які-небудзь калектыў акадэмічнага інстытута, занятага яе даследаваннем. Ці ж гэта не ўзор для пераймання і нашым палітыкам як трэба шанаваць родную мову, карыстацца ёю — і толькі ёю! — пры выкананні свайго службовага абавязку? Дапамагаць жа Пуціну ўмацоўваць пазіцыі рускай мовы ў афіцыйным жыцці нашага краю няма аніякай патрэбы, бо ў яе і без гэтага неабдымныя абсягі грамадскага ўжытку.

З горыччу мушу прызнаць, што доўгачаканае, цалкам заслужанае набыццё Беларуссю статусу суверэннай дзяржавы зусім не пайшло на карысць яе роднай мове. Маштабы выкарыстання апошняй у грамадска-палітычным жыцці, асабліва ў такіх важных нацыястваральных сферах як адукацыя і культура, істотна знізіліся ў параўнанні з тымі, што былі характэрны савецкаму часу, хаця па волі Маскоўскага Крамля на ўсім абшары СССР, у тым ліку і ў БССР, праводзілася як след не прадуманая, а таму і памылковая шкодная палітыка збліжэння і зліцця ўсіх яго нацый і народнасцей. Агульнапрынята лічыць, што ад той нядобрай памяці палітыкі найбольш за ўсіх этнакультурных страт панёс беларускі народ. І тым не менш, тады яго родная, нацыянальная мова мела намнога больш прыстойныя пазіцыі ў грамадстве, чым сёння. Зразумела, галоўным чынам не так падлеглай русіфікацыі вёсцы, з беларускамоўнасцю якой мы сёння практычна ўжо канчаткова развіталіся. Трагедыя найвялікшая, нічым незаменная.

Як нядзіўна, залішне алімпійскі спакой датычна нечувана небяспечнай моўнай сітуацыі ў РБ на працягу ўсяго часу яе існавання характэрны і таму акадэмічнаму навуковаму падраздзяленню, дзейнасць якога самым непасрэдным чынам звязана з даследаваннем разгляданай мной праблемы. Тут я маю на ўвазе Інстытут мовазнаўства Цэнтра даследавання беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. За час, як наша краіна, дзякуючы збегу спрыяльных абставін, стала суверэннай дзяржавай, гэты калектыў навукоўцаў — а ў ім раней і сёння дастаткова сапраўдных прафесіяналаў — не выдаў аніводнай салiднай манаграфічнай этналінгвістычнай працы, у якой былі б расстаўлены ўсе кропкі над „і", глыбока, усебакова раскрыты плюсы і мінусы моўнага рэферэндуму 1995 года для беларускай мовы — мовы не толькі дзяржаўнага, але і адзінага тытульнага народа Рэспублікі Беларусь. З усім гэтым можна было б мірыцца, калі б з сацыяльнай запатрабаванасцю беларускай мовы не мелася аніякіх праблем. Такога на практыцы мы ні на ёту не заўважаем. Сёння становішча беларускай мовы непараўнальна горшае, чым за ўвесь перыяд савецкай гісторыі, асабліва ў апошнія гады Гарбачоўскай перабудовы. Каб не яна, ніхто б не дазволіў нацыянальна-патрыятычным сілам нашай рэспублікі ў чэрвені 1989 года стварыць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Да Міхаіла Гарбачова не адважваліся ўзнімаць любую гаворку датычна безнадзейнага лёсу беларускай мовы. А тут з дазволу самых высокіх партыйных і савецкіх органаў афіцыйна, пры нечувана актыўным удзеле перадавых сіл засноўваецца адмысловая арганізацыя рэспубліканскага маштабу па яе абароне. Міне трохі больш за паўгода і гэтыя ж органы прымуць сапраўдны закон дваццатага стагоддзя — Закон „Аб мовах у Беларускай ССР", у адпаведнасці з якім ва ўнісон з перадавой сусветнай практыкай у Беларусі, як рэспубліцы з адным тытульным народам, яе нацыянальнай мове надаецца статус адзінай дзяржаўнай. Згаданым Законам з парадку дня знімалася стагоддзямі навіслае над беларускім народам трывожнае пытанне: „Жыць ці памерці яго роднай мове?" Закон прадракаў: „Жыць!", што вынікала са зместу яго адпаведных артыкулаў. Гарантавала жыццё беларускай мове і ўся канкрэтная дзейнасць партыйных і савецкіх органаў. Як і ў гады міжваеннай беларусізацыі, яна мела нацыястваральны характар. У гэтых органах поўным ходам ішла падрыхтоўка да пераводу службовага справаводства на беларускую мову, што ў абавязковым парадку выклікала пільную неабходнасць пастурпаць такім чынам усе сферы грамадскага жыцця і галоўнае — вышэйшую і сярэднюю спецыяльную школу — галоўную крыніцу падрыхтоўкі новых пакаленняў беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. На беларусізацыю афіцыйнага жыцця ў партыі, дзяржавы хапала фінансавага, кадравага, ідэалагічнага рэсурсу, і ён пачаў пакрысе выкарыстоўвацца. Ніколі я не быў членам КПСС, але шкадую, што яе дзейнасць прыпынілі якраз у час, калі яна пачала актыўна падключацца да беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння, бо ніхто тады не мог даць яму столькі карысці, як ЦК КПБ.

Бясспрэчны той факт, што ў студзені 1990 года Беларусь не магла б прыняць такога прагрэсіўнага, перспектыўнага для яе тытульнай нацыі закона аб мовах, калі б падобнага роду нарматыўныя акты ўжо не сталі рэальнасцю ва ўсіх іншых саюзных рэспубліках Савецкага Саюза. Без іх пазітыўнага ўплыву распрацоўшчыкі Закона „Аб мовах у Беларускай ССР" наўрад ці адважыліся б унесці ў яго прагрэсіўны ва ўсіх дачыненнях артыкул аб наданні беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай у рэспубліцы, бо ў такога разумнага падыходу мелася шмат апанентаў, прычым даволі высокага рангу палітыкаў. Зацвердзіць жа беларусам у сваім законе яшчэ і дзяржаўнасць рускай мовы азначала б быць белай варонай на ўсім савецкім абшары. На такі памылковы, архірызыкоўны крок не адважыліся, але толькі да пэўнага часу: пакуль да ўлады не дарваліся абрусеўшыя палітыкі. Я ніколькі не быў прыхільнікам такіх вялізных поліэтнічных дзяржаў, як СССР, бо меў цвёрдае перакананне: на справе ўсе яны без вынятку з'яўляюцца крайне небяспечнымі асіміляцыйнымі плавільнымі катламі. У іх ненажэрнае горла не трапляюць толькі тытульныя дзяржаўныя нацыі. Калі ў сакавіку 1991 года ў СССР праводзіўся рэферэндум з мэтай даведацца, як глядзіць народ на далейшы лёс гэтай моцна хворай аграмадзіны, я выступіў у перыядычным друку з артыкулам пад загалоўкам „Чаму я сказаў „не!" Саюзу?", бо лічыў, што па яго віне адбылося руйнаванне нацыянальных асноў культурна-моўнага жыцця беларусаў. Затое, як яно зарунела, пачало набываць самабытнасць пасля распаду СССР! Здавалася, нарэшце прыйшоў доўгачаканы канец любым спробам навязаць беларусам праз дзяржаўную палітыку русіфікацыі чужыя культурна-моўныя стандарты. На вялікую бяду, такога не атрымалася, бо ў ліпені 1994 года прыйшлі да ўлады прыхільнікі гэтых стандартаў, і рухавік гісторыі пачаў даваць задні ход. Прэзідэнцкая сістэма ўлады хутка вярнула краіну ў рэчышча яшчэ не забытай чыноўніцтвам савецкай нацыянальна-культурнай палітыкі з той толькі розніцай, што беларускай мове юрыдычна забяспечваўся статус адзінай дзяржаўнай. На справе ж гэтым так жаданым беларусамі прэстыжным статусам амаль на ўсе сто працэнтаў карысталася толькі руская мова. Каб ліквідаваць такую нестыкоўку паміж тэорыяй і практыкай прамаскоўскай пазіцыі ўлады, абапіраючыся на выніку майскага 1995 года рэферэндуму, статус дзяржаўнай узаконілі і за рускай мовай. Маючы надзейныя тылы ў асобе моцна зрусіфікаванага ва ўсіх сферах грамадскага жыцця чыноўніцтва, яна вельмі хутка выцесніла адусюль беспасажніцу беларускую мову на яе гістарычнай радзіме...



Фота Радыё Свабода

(працяг будзе)

**Леанід ЛЫЧ**, доктар гістарычных навук, прафесар

# Стараемся прапагандаваць нашу нацыянальную беларускую культуру

Размова з **Сяргеем ЛІШЧЭНКАМ**, дырыжорам Камернага хору „Магілёўская гарадская капэла". Хор удзельнічаў у XXXVI Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі «Гайнаўка – 2017»

**— Вы не стаміліся?**

— Праграма доўжылася дваццаць мінут, а гэта для нашага хору не так многа, таму што цягам месяца нам прыходзіцца рыхтаваць дзве паўнацэнныя праграмы. Да таго ж разам з нашым сімфанічным аркестрам нашай магілёўскай капэлы мы выконваем і вакальна-сімфанічную музыку, а часць канцэрта заўсёды складае музыка а капэла. Для нас дваццаць мінут, паўгадзіны акапэльнага спеву гэта стандартная ў часе праграма. Таму мы былі гатовы і на такі лік твораў. І гэта звязана яшчэ з тым, што многія нашы харавікі выконваюць яшчэ царкоўныя службы. З гэтага вопыт царкоўнага спеву. Я раней таксама служыў болей, цяпер крыху менш царкоўным рэгентам і для нас царкоўная музыка не проста мода, а ўнутранае разуменне і духоўнае прыцяжэнне да нашай сапраўднай праваслаўнай культуры.

**— Я меў на думцы стому ад доўгага падарожжа. У час Вашага падарожжа ў Польшчу быў канцэрт у Камянцы...**

— Мікола Бушко запрапанаваў нам, каб па дарозе сюды мы пераначавалі блізка граніцы, перакрочылі яе раніцай і ехалі проста ў Варшаву, дзе быў таксама ў плане канцэрт. І мы, запар з трыма калектывамі з Украіны, Расіі і Польшчы далі канцэрт у касцёле. Было нам цікава, таму што мы ўпершыню выконвалі канцэрт у Варшаве; мы былі вельмі рады гэтаму.

**— У фестывальным буклеце напісана, што вы адным з першых хароў сталі выконваць царкоўную музыку. Ці не было гэта складана?**

— Так, у Магілёве. Справа ў тым, што нялёгкі быў перыяд, калі забаранялі духоўную нацыянальную музыку. Слава Богу мы гэта перажылі і перыяд вяртання да духоўнай музыкі ў постсавецкай прасторы заняў прыблізна дзесяцігоддзе. Тады нават з руплівасцю сталі выконваць многія праграмы духоўнай музыкі. Можа спачатку каму было гэта модна, але ж у канцы канцоў усе выдатна разумеем, што духоўная музыка заўсёды з'яўляецца часцю класічнай музыкі. І мы ніяк не маглі адарваць яе ад цэлага пласта музыкальнай харавой класікі. Таму, калі я прыехаў у Магілёў, першым маім дзеяннем было стварэнне хору і зразу, у першай праграме паставіў некалькі нумароў нашай нацыянальнай духоўнай музыкі — старыннай беларускай і іншай праваслаўнай музыкі розных кампазітараў, розных напрамкаў.

**— Ці Ваш хор выконвае толькі царкоўную музыку, ці больш шырокі яе спектр, напрыклад заходнееўрапейскую ці амерыканскую?**

працяг ☞ 11

Зніжкі на ўсе віды паліва да 13,5%!

**https://azs.a-100.by**

Колькасць аўтамабіляў на вуліцах гарадоў свету павялічваецца з кожным годам. Праўда, згодна з новымі тэхналогіямі, з часам сур'ёзную канкурэнцыю ім складуць электрамабілі, ці як іх яшчэ называюць, электракары, што рухаюцца, дзякуючы акумулятарам, і ім зусім не патрэбнае паліва. Аднак наўрад ці эра электрамабіляў настане цягам бліжэйшых пяці гадоў, ды і пасля аўтамабілі не адразу страцяць свае пазіцыі. Таму попыт на вуглевадароды застанецца, а продаж бензіну ці дызельнага паліва будзе прыносіць немалы прыбытак. І было б добра, каб тыя, хто атрымлівае нядрэнныя грошы за продаж паліва аўтааматарам, хацелі б, каб беларусы нацыянальна адраджаліся. Напрыклад, так, як таго хочуць уладальнікі сеткі аўтазаправачных станцый (АЗС) А-100, што прысутнічае ў Беларусі.

Шчыра кажучы, дадзеная сетка з'яўляецца адзінай, якая напоўніцу выкарыстоўвае беларускую мову ў сваёй дзейнасці. У астатніх вельмі рэдка можна сустрэць беларускае слова. Таму, каб бліжэй пазнаёміцца з адзінай у Беларусі беларускамоўнай сеткай АЗС варта зазірнуць на яе сайт у інтэрнэце, што знаходзіцца па адрасе https://azs.a-100.by.

Хоць сетка і абрала для сябе беларускую мову як маркетынгавы ход дзеля прыцягнення ў свае кліенты шчырых беларусаў, мовай яе сайта па замоўчванні з'яўляецца руская. Праўда, калі адкрыеш рускую версію, то адразу ў верхнім правым вугле выяўлення з'яўляецца запрашэнне наведаць беларускую версію сайта.

Віртуальнае прадстаўніцтва А-100 зроблена з правіламі, ужо ўвайшоўшымі ў традыцыю сайтабудавання. Уверсе знаходзяцца нешматлікія выйсці на іншыя рубрыкі, але калі „пракруціць" выяўленне зверху ўніз, то перад вачыма адкрыецца ўсё, што яго ўладальнікі хочуць нам паказаць.

Згодна з інфармацыяй, пададзенай у рубрыцы „Аб кампаніі", назва „А-100" з'явілася ў Беларусі ў 1994 годзе. „Ужо ў тыя часы мы марылі аб высокаактанавым і максімальна экалагічна бяспечным паліве «А-100». Адсюль і ўзнікла назва нашай сеткі АЗС. Мы дагэтуль штодзённа натхняемся самымі лепшымі рашэннямі і імкнёмся здзіўляць і шанаваць нашых кліентаў усімі магчымымі шляхамі: ад акцый і зніжак да дабрачынных праектаў. А-100 — больш, чым АЗС", — сцвярджаецца там. На той жа старонцы мы можам пабачыць увесь менеджмент кампаніі, распаведы пра вялікую якасць яе паліва.

Варта адзначыць, што кампанія напоўніцу выкарыстоўвае сайт, каб прарэкламаваць сябе. Аднак тое, што ад 1994 года сетка прысутнічае толькі ў трох рэгіёнах Беларусі, кажа, што стратэгія развіцця ў яе далёка не агрэсіўная, а палітыка не накіраваная на экспансію. Таму ў бліжэйшым ад Беластока беларускім Гродне наліць бензін на А-100 не ўдасца. Праўда, у Брэсце і Мінску такая магчымасць маецца. Усяго ж па Беларусі налічваецца толькі 34 АЗС дадзенай сеткі.

Напачатку 2015 года А-100 пачала шырока выкарыстоўваць беларускую мову пры абслугоўванні кліентаў. Паводле сведчанняў кіраўніка ўпраўлення маркетынгу кампаніі Ніны Ніканоравай, пасля пераходу на беларускую мову ў зносінах на АЗС кліентаў у А-100 паболела. „Продажы выраслі, паколькі мы прывабілі да сябе частку модных і прагрэсіўных, якія падзяляюць нашу пазіцыю датычна больш шырокага выкарыстання беларускай мовы", — заявіла яна газеце „Наша ніва".

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

Памяці ўдзельніка БНР і Слуцкага паўстання

## 125 гадоў з дня нараджэння Андрэя Якубецкага

Беларускі вайсковец, грамадска-палітычны, культурны дзеяч Андрэй Якубецкі нарадзіўся 5 кастрычніка 1892 г. непадалёк Гародні ў вёсцы Сухмяні. Паходзіў з праваслаўнай сям'і. У 1912 г. Якубецкі скончыў настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы. Непрацяглы час настаўнічаў. Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. У 1915 г. скончыў Аляксандраўскую вайсковую школу ў Маскве. У час бурлівых падзей 1918 г. дэмабілізаваны ў чыне капітана. Пасля гэтага вярнуўся ў Гародню, дзе актыўна ўдзельнічаў у стварэнні войска Беларускай Народнай Рэспублікі. Кіраўнік Рады БНР у Гародні. У лістападзе 1918 г. увайшоў у Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў, адзін з ініцыятараў склікання Гарадзенскага беларускага сялянскага з'езда. З кастрычніка 1919 г. — кіраўнік Беларускай вайсковай камісіі ў Менску. Прыкладна ў канцы таго ж года ад Беларускай вайсковай камісіі паехаў у Польшчу, дзе вучыўся ў афіцэрскай школе.

У канцы лістапада 1920 г. разам з вядомым тагачасным дзеячам Кузьмом Цярэшчанкам з Лодзі прыбыў на Случчыну ў мясцовасць Семежава для ўдзелу ў вызвольным антыбальшавіцкім Слуцкім паўстанні. Разам з ім прыехалі яшчэ тры афіцэры з дванаццаці пасланых — паручнік Тодар Янушэнка, капітаны Антон Борык і Антон Сокал-Кутылоўскі. Якубецкі — актыўны ўдзельнік Слуцкага збройнага чыну. У час паўстання 17 снежня 1920 г. Рада БНР прызначыла яго галоўнакамандуючым войскам Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасля паразы паўстання пэўны час знаходзіўся ў Вільні, потым інтэрнаваны ў Польшчу.

У 1921 г. Андрэй Якубецкі арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены. Вызвалены ў наступным годзе. Спярша ў ліку іншых 33-х беларускіх і літоўскіх нацыянальных дзеячаў высланы польскімі ўладамі з Вільні ў Літоўскую Рэспубліку. Потым у траўні 1922 г. па запрашэнні Кастуся Езавітава разам з жонкай Нінай пераехаў у Латвію. Езавітаў узначальваў Беларускае нацыянальнае аб'яднанне ў Рызе. Паводле яго пратэкцыі Якубецкі выкладаў у Дзвінску ў беларускай гімназіі і беларускіх школах. Супрацоўнічаў з Беларускім музеем Івана Луцкевіча ў Вільні. У Латвіі быў сябрам культурна-асветнага таварыства „Бацькаўшчына". Выкладаў геаграфію паводле падручніка Аркадзя Смоліча, тлумачыў пра захопленыя Латвіяй беларускія тэрыторыі. За гэта трапіў пад палітычны пераслед і пад суд у красавіку 1925 г., але быў апраўданы.

Вядома, што ў час Другой сусветнай вайны працаваў у нямецкай адміністрацыі. Кіраваў Дзвінскім аддзяленнем Беларускага нацыянальнага аб'яднання ў Латвіі. Пасля 1944 г., калі выехаў у Нямеччыну, звесткі пра яго губляюцца і далейшы лёс невядомы. Імаверна жыў у эміграцыі ў адной з краін Захаду.

У 2015 г. грамадскія актывісты адшукалі магілу бацькі Якубецкага — Паўла Якубецкага, надпіс на яго помніку выкананы па-беларуску. Вядома, што бацька быў актыўным удзельнікам Таварыства беларускай школы ў Капцёўцы, што пад Гародняй, у міжваенны перыяд. Пахаванні Паўла Якубецкага і іншага сына — Міхаіла на капцёўскіх могілках. У лістападзе 2016 г. там пастаўлены сімвалічны помнік памяці Андрэя Якубецкага. Грошы на яго былі сабраныя беларускімі патрыётамі. На помніку надпіс: „Тым, хто пайшоў паміраць, каб жыла Бацькаўшчына!".

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

10☞ працяг

— Мы, безумоўна, выконваем розную духоўную музыку, таму што мы сваім слухачам у горадзе Магілёве і навонкі яго павінны паказаць усе пласты духоўнай музыкі, так заходнееўрапейскай, і ўсходняй, як і амерыканскай, бо гэта таксама класіка. Усе нашы слухачы павінны арыентавацца ў тым, што адбываецца ў іншых краінах, на іншых кантынентах. Лацінаамерыканская музыка — адна з найпрыгажэйшых духоўных. Мы, дарэчы, не так даўно, у пачатку мая, былі ў нашым горадзе-пабраціме Эйзенахе, гэта радзіма Баха, у Германіі. І там мы выконвалі розную духоўную музыку: і нашу праваслаўную, і амерыканскую, і заходнееўрапейскую — гэта было вельмі цікава слухачам, таму што гэта шырокі спектр рознай музыкі.

**— Вы назвалі Варшаву, Эйзенах — а ў якіх яшчэ пунктах свету, у тым і Беларусі, пабываў Ваш хор?**

— Можна сказаць так: у пачатку 1990-х гадоў мы найчасцей прыязджалі ў Польшчу. Тады быў час вельмі свежых ідэй, цікавых ініцыятываў, так з боку Царквы як і магілёўскага Касцёла — мы былі тады адзіным хорам, цяпер мы таксама адзіны прафесіянальны хор з сімфанічным аркестрам. Мы тады шматразова ездзілі ў Польшчу, у Германію, у Францыю, у Славакію, у Прыбалтыку. Мы выступалі ў Расіі, у Балгарыі; у нас гарады-пабрацімы. Мяркую, што разам з аркестрам мы аб'ездзілі амаль усю Беларусь таксама. Нам цікава паказаць розныя саставы музыкантаў у адным канцэрце — гэта хор а капэла, гэта сімфанічны аркестр ды хор плюс аркестр вакальна-сімфанічнай музыкі. Таму наша магілёўская капэла разам з іншымі калектывамі Беларусі заўсёды стараецца прапагандаваць нашу нацыянальную беларускую культуру, так жа, як і сусветную музычную культуру. І не толькі для дарослых, але і для дзяцей — даем вельмі многа канцэртаў для агульнаадукацыйных школ нашага горада.

**— А народная музыка таксама ёсць у Вашым рэпертуары?**

— Вядома. Вось у Камянцы мы выконвалі нашу духоўную музыку і палову праграмы народную беларускую музыку.

**— Народная музыка ў Вас толькі беларуская, ці таксама выконваеце музыку суседніх народаў?**

— Вядома, і рускую, і ўкраінскую. А агульна магу сказаць, што большасць у нас славянскай народнай музыкі. Але амерыканскі спірычуэл гэта таксама народная музыка. Шмат і еўрапейскай народнай музыкі, у тым і ў апрацоўцы для аркестра. Ну, і для хору а капэла, напрыклад, у Германіі мы спявалі музыку нямецкую, амерыканскую. Для кожнай праграмы мы не забываем, што вельмі ўзрушаючай так па каларыце, як і рытмах лацінаамерыканская музыка. У нас ёсць добры прыяцель з Венесуэлы, які прыязджае да нас з канцэртнымі праграмамі лацінаамерыканскай музыкі, і мы яе выконваем шмат для нашай публікі. Таксама стараемся выконваць і папулярную сучасную музыку, вось у нас будзе дзве праграмы музыкі кіно, у тым ліку і музыкі Галівуда. Таму ўсё тое, што кранае сучасную музыку, што цікавіць і моладзь, і дарослых, мы стараемся пачуць, зразумець і абавязкова нарыхтаваць такую праграму, каб слухачы не забывалі, што заўсёды ў аснове любога музычнага вопыту ляжыць менавіта класіка.

**— Вялікае Вам дзякуй.**

❖Пытанні і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# ЗАПРАШАЕМ



## «Бежанцы. 1915-1922»

дак. фільм, рэж. Юрый Каліна,
5 кастрычніка, Kino Forum, Беласток, 18.00 г.

Лета 1915 года. Царская армія адступае з заходніх губерняў Расейскай імперыі, пакідаючы немцам спаленую зямлю. Царскія ўлады высяляюць сялянскія сем'і, некаторыя ўцякаюць самі, гараць цэлыя вёскі. Сотні тысяч вазоў цягнуцца на ўсход. Яны запаўняюць дарогі, праціскаючыся паміж ваеннымі калонамі. Пануе пекла: эпідэмія тыфу і халеры, спёка, нястача пітной вады, голад, абстрэлы і бамбаванне з боку немцаў.

Агромністая тэрыторыя сучаснага Падляшша, абшары вакол Любліна і Хэлма, іншыя заходнія рэгіёны Расейскай імперыі ды ў меншай ступені цэнтральнай Польшчы — пусцеюць. Бежанцы — перадусім праваслаўныя беларусы, украінцы і расейцы (каля 70 %), а таксама палякі (12 %), габрэі, літоўцы, латышы і армяне. Паводле ацэнак гісторыкаў, свае дамы пакінулі каля трох мільёнаў чалавек. Гэта была самая маштабная прымусовая міграцыя ў XX стагоддзі ў гэтай часткі Еўропы.

Тыя, хто перажыў кашмарнае падарожжа, дайшлі да Дону, Сібіры, Каўказа і Сярэдняй Азіі. Там яны перажылі дзве рэвалюцыі, а таксама крывавую грамадзянскую вайну. Праз 5-7 гадоў яны вярнуліся ў свае вёскі, ужо ў адроджанай Польшчы. І знайшлі тут спаленыя гаспадаркі, занядбаныя землі, голад і недавер з боку ўладаў. Але ім пашчасціла — выжыць, бо каля 30 % бежанцаў не перажылі выгнання.

Гэты незвычайны і трагічны досвед трох мільёнаў чалавек не дачакаўся сваіх даследнікаў. Літаратуры на гэтую тэму вельмі мала, захавалася няшмат успамінаў. У Беларусі, як і ў Расеі, пра гэтую з'яву не ведаюць. У гістарычным наратыве таго перыяду дамінуюць апісанні ваенных дзеянняў. Сяляне не вялі дзённікаў, а вусныя гісторыі збольшага забытыя.

Фільм Юрыя Каліны — гэта часткова сямейная гісторыя. Прабабка рэжысёра Зоф'я выехала з малой вёскі Кашалі Бельскага ўезду Гарадзенскай губерні ў казацкую станіцу Сцяпное Мацюніна Саратаўскай губерні. Там яна нарадзіла дачку Надзею. Зоф'я назвала гэтак дзіця, бо спадзявалася, што неўзабаве да іх далучыцца ейны муж Якуб, мабілізаваны ў царскую армію. Яна не ведала, што муж загінуў на фронце. Ён так і не пабачыў дачкі...

# 08.10 — 14.10

**(22.03. — 20.04.)** Пазбудзешся сумненняў, з кім хочаш быць. Пераканаешся, што ў партнёры маеш падтрымку. Прыглянься выдаткам і здароўю. У фірме пакуль не парывайся на новыя мерапрыемствы. Вучыся, здабывай інфармацыі, запаўняй дакументы. 13-14.10. не прымушай сябе да актыўнасці, пазбягай рызыкі.

**(21.04. — 21.05.)** Не дасі сябе апярэдзіць канкурэнцыі і пазмагаешся за сваё. Даб'ешся чаго хочаш! Паробіш парадкі дома і на працы. Задбаеш аб здароўе і красу. Пераканаешся, як моцна трымаецца твая пара. Форма не падвядзе. Работы вельмі шмат, але не відаць на гарызонце павышэння, дык намякні на гэта шэфу. 7-10.10. можа парвацца перспектыўнае знаёмства.

**(22.05. — 22.06.)** Паявяцца шанцы на рэалізацыю смелых намераў. Разлічвай на прыліў большых грошай. Добры настрой. Упарадкаванне асабістага жыцця (але не замяняй аднаго партнёра адразу другім); 12-14.10. паявіцца нагода, каб пасталець. 7-10.10. будзеш мець шчасце ў пакупках. 8-9.10. нагода вялікага заробку. Шукай новых прапаноў, курсаў, абучэнняў, шлі Сі-Ві, дамаўляйся на бізнесовыя сустрэчы, асабліва калі ты народжаны ў чэрвені. 8-12.10. будуць канфлікты — пагасі іх загадзя.

**(23.06. — 23.07.)** Папravіцца атмасфера дома і ў фірме. Высветліш непаразуменні і закончыш спрэчкі. Твой голас будзе больш чутны. Пік папулярнасці асабліва ў Ракаў з пераломy чэрвеня і ліпеня. Зялёнае святло на пошукі працы, магчыма, што кагосьці заменіш на пасадзе. Але 8-12.10. можа атакаваць цябе канкурэнцыя.

**(24.07. — 23.08.)** Справішся на працы і ў кожнай іншай кампаніі. Кончыш спрэчкі, пагасіш даўгі. Узрасце твая амбітнасць. Будзеш ведаць з кім як дагаварыцца. 8-12.10. будуць правакаваць цябе да вострай спрэчкі. Калі шэф цябе папракне, не спрачайся, толькі папраў памылкі (асабліва 8-12.10.). Пасля 10.10. атрымаеш вартыя цябе заданні або дастанеш адказ на старыя Сі-Ві. Будзеш зарабляць. Выходзь у большую кампанію, не прапускай мерапрыемстваў.

**(24.08. — 23.09.)** Прыспешыцца тэмп падзей. Спрыянне людзей і акалічнасцей. Праблемы хутка знікнуць. З 10.10. нагоды для падарожжаў, вучобы, пашырэння гарызонтаў. Павышэнне інтуіцыі. Скок тэмпературы ў спальні. 12-14.10. кантакты з людзьмі важнымі ў мінулым; не ўцячэш ад успамінаў і даведаешся чагосьці важнага. Але 8-13.10. можа быць справа, у якой галавой муру не праб'еш.

**(24.09. — 23.10.)** Крутыя дарогі выпрастаюцца. Будзеш рабіць тое, што хочаш. І яшчэ добра заробіш! Зоркі палегчаць табе дарогу да поспеху. Твае высновы будуць правільныя. Міла выкараскаешся з усялякіх глупстваў. На працы кемлівасць, толк і трапныя ацэнкі, будзеш улюбёнцам кіраўніцтва. І будзе падтрымка зорак у фінансах ад 10.10.

**(24.10. — 22.11.)** Упарадкуй справы, высветлі складаныя адносіны. Адпусці лішак абавязкаў, часцей адпачывай (аслабленая засяроджанасць). Наладжвай знаёмствы, заварожвай сэрцы. Пакуль штосьці пачнеш рабіць, рэальна ацані магчымасці. Найбольш шчасця ў народжаных у кастрычніку, але мусяць вучыцца новаму, павышаць кваліфікацыі, пашыраць досвед. Пара змяніць навыкі. 7-10.10. магчымая разгубленасць у рэальнасці.

**(23.11. — 22.12.)** Спрыянне людзей. Зачыненыя дзверы адчыняцца. Наладзіш прыгожыя сяброўствы. Але з 10.10. не разлічвай толькі на шанцаванне. 12-14.10. знакамітыя задумы на вырашэнне праблем. Хаця 8-10.10. не дай сябе ўвагнаць у фінансавыя клопаты. Не адмаўляйся ад прыемнасці, але трымай ува ўсім меру.

**(23.12. — 20.01.)** Вырастуць твае ўплывы ў сям'і і прафесійныя амбіцыі. Пакажаш, што маеш неблагую кемлівасць да інтарэсаў. 10.10. прачнецца ў табе ахвота да вучобы і падарожжаў. Крыху стрэсаў, асабліва на працы. Затое бухне полымем тэмпература пачуццяў. На працы інтэнсіўная праца; ад таго, як справішся з заданнямі 8-12.10., залежыць твая далейшая кар'ера; не рызыкуй спрэчкі з шэфам, нават калі не мае рацыі.

**(21.01. — 19.02.)** Узбагаціцца спісак тваіх знаёмых. У добрай кампаніі час міне прыемна. Наладжаныя 8-10.10. кантакты прынясуць удалае супрацоўніцтва. Жыццё ўзбагаціцца ў новыя падзеі, захапленні і кантакты. Чуласць, клопат, зразуменне аказаныя іншым, што не значыць, што заўжды ўзаемна. На працы будзе лічыцца не толькі тое што, але і з кім робіш. Інвестары і супрацоўнікі самі заявяцца да цябе. Сам будзеш мець крыху менш энергіі, дык не прастынь.

**(20.02. — 21.03.)** У пачуццях крыху замяшання, але канчаткова пойдзе гэта к дабру. Запрацуеш на павышэнне. Спрыяе табе трыгон Юпітара з 10.10. Пойдуць уверх твае аспірацыі, якія памогуць табе пазмагацца за большае. Але 8-13.10. не дай сябе падысці мацнейшаму ад сябе. Твае планы могуць знішчожыцца 8-10.10., хтось можа аказацца не вартым даверу.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. усходнетурэцкае возера ў ... саванне = 4 _ 2 _ 1 _;
2. настольная стратэгічная гульня ў ... вагоне = 8 _ 7 _;
3. установа для аховы грамадскага парадку ў Беларусі = 35 _ 34 _ 33 _ 15 _ 14 _ 36 _ 28 _;
4. прадпрыемства для вытворчасці боханаў = 31 _ 25 _ 17 _ 18 _ 26 _ 27 _ 5 _;
5. прылада з вочак для рыбаловаў і валейбалістаў = 3 _ 23 _ 6 _ 38 _ 39 _;
6. чорная фарба для чарчэння ў ... ратушы = 29 _ 30 _ 37 _;
7. дакумент, які падпісвае кіраўнік Беларусі = 20 _ 21 _ 22 _ 24 _;
8. паўднёвая травяністая расліна сямейства касачовых (*Crocus*) = 16 _ 9 _ 10 _ 11 _ 12 _ 13 _;
9. возера між Ушачамі і Глыбокім, якое ў Беларусі лічыцца цэнтрам Еўропы = 19 _ 32 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | | | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | | | | 30 | | 31 | 32 | 33 | 34 |
| | | | | | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 38 нумара**

Верн, апаратура, Ніл, ліпень, Інд, адсек, рэверанс, талент, май, ціс, артыст, крыга, баец.

Рашэнне: **У верасні і ліст на дрэве не трымаецца**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Гісторыі сатканыя з ніцей — старое рукадзелле для будучыні

Пад лозунгам «Гісторыі сатканыя з ніцей — старое рукадзелле для будучыні» ў Гайнаўскім доме культуры ў верасні была адкрыта выстава народнага мастацтва рукадзельніц з Палічнай, Дубіч-Царкоўных, Вярстока, Войнаўкі, Тафілаўцаў, Дабрывады і наваколля. Больш за 100 тканых, вышываных і плеценых з дапамогай кручка вырабаў рукадзелля саставілі экспазіцыю, якая была размешчана ў галерэйнай зале і на вялікім калідоры ГДК. Народныя мастачкі прыбылі ў дом культуры, каб распавесці пра свае вырабы, а дзве майстрыхі нават паказвалі, як правільна класці дэкаратыўныя падушкі на ложкі. Рукадзельныя працы сабраны былі ад вясковых жанчын у рамках аднайменнага з загалоўкам выставы праекта. Яго рэалізатарам было Культурнае аб'яднанне «Паштоўка» з Палічнай.

— Ручнікі, абрусы, макаткі і пакрывалы на ложкі, якія мясцовыя жанчыны ткалі на кроснах, упрыгожвалі іх вышыўкай і карункамі, гэта вельмі важная частка традыцыі гэтага рэгіёна і можна іх знайсці ў многіх дамах на Гайнаўшчыне. Мы рукадзелле фатаграфавалі, дакументавалі цікавыя і вельмі багатыя ўзоры. Можа стануць яны інспірацыяй для новых узораў, з улікам традыцый Гайнаўшчыны, — сказала Агата Рыхцік-Скібінская з Культурнага аб'яднання «Паштоўка» ў Палічнай, якая адкрыла выставу і распавяла пра дзейнасць аб'яднання па захаванні мясцовай традыцыі для будучыні.

Агата Рыхцік-Скібінская пасялілася разам з мужам у Палічнай у 2012 годзе. Свой дом сталі яны абсталёўваць у адпаведнасці з мясцовай традыцыяй. Тады зацікавіліся таксама тканым і вышываным рукадзеллем. Спадарыня Агата распавяла пра праект «Гісторыі сатканыя з ніцей — старое рукадзелле для будучыні». Яна — яго каардынатар і галоўны рэалізатар. Дзве жанчыны, якіх рукадзелле прэзентавалася на выставе ў ГДК, паказвалі як трэба было класці падушкі і падушачкі-ясікі, каб тыя добра прэзентаваліся на засланым прыгожай капай ложку.

— У нашым доме культуры арганізуюцца агляды народнага рукадзелля, выкананага непасрэдна на агляд, а тут аб'яднанне «Паштоўка» прэзентуе колішнія вырабы і мы гэтаму вельмі рады, — заявіў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч. — У ходзе рэалізацыі праекта народнае рукадзелле збіралася найчасцей ад старэйшых жанчын, якія яшчэ пралі, ткалі, вышывалі і выконвалі карункавыя працы. Іх рукадзелле часта залежвалася ў сундуках і шафах, бо толькі частка яго выкарыстоўвалася ў побыце. Аб'яднанне «Паштоўка» з Палічнай рашылася паказаць узоры старадаўняга рукадзелля, каб маглі іх паглядзець у першую чаргу маладыя жыхары рэгіёна.

На выставе можна ўбачыць перш за ўсё рукадзелле выкананае ў 1940-1960-х гадах. На экспазіцыі прэзентаваліся працы, якім зараз пад сто гадоў, а таксама пакрывалы і палавікі тканыя ў сямідзясятых і васьмідзясятых гадах мінулага стагоддзя. Спадарыня Агата Рыхцік-Скібінская з дапамогай мясцовых жыхароў наведвала навакольных рукадзельніц, фатаграфавала сотні экспанатаў, а звыш двухсот вырабаў пазычыла дзеля іх вывучэння. З дапамогай спецыяліста па народных тканінах і ўборах Патрыка Паўлячыка, захавальніка Аддзялення этнаграфіі Польшчы і Еўропы Дзяржаўнага этнаграфічнага музея ў Варшаве, на выставу выбраных было каля ста экспанатаў — ручнікі, абрусы, сурвэты, макаткі, пакрывалы, палавікі і іншыя вырабы. Спадарыня Агата вельмі цікавымі лічыць пакрывалы ў пераборы, з матывамі характэрнымі для рэгіёна Белавежскай пушчы.

Міраслава Іванюк з Дубіч-Царкоўных перахоўвае сшытак сваёй мамы Анастасіі Хіліманюк, у якім дакладна з дапамогай лічб распісаны ўзоры пакрывалаў, у тым ліку тканых у чатыры нічаніцы, больш складаных для выканання. Сшытак і пакрывалы сваіх продкаў Міраслава Іванюк паказала спадарыні Агаце Рыхцік-Скібінскай, а некаторыя з іх перадала на выставу.

— Пазней спадарыня Агата папрасіла мяне, каб я дапамагла ёй наведаць рукадзельніц у Дубіцкай гміне. Аказалася, што ў нашых вёсках захавалася яшчэ многа даўняга рукадзелля. Мінуў ужо час, калі яно прадавалася за невялікія грошы. Зараз нашчадкі майстрых перахоўваюць старыя ручнікі, абрусы, пакрывалы і іншыя вырабы як памятку па продках, — сказала Міраслава Іванюк.

У Тафілаўцах быў наладжаны сход, прысвечаны даўняму рукадзеллю. Агата Рыхцік-Скібінская і Міраслава Іванюк пабывалі ў старэнькай бабулі Марыі Ярмашук у Войнаўцы, якая ў маладосці вышывала ручнікі і макаткі, многа прала, ткала і многа свайго рукадзелля захоўвае надалей. Зараз даўнія вышываныя і апрацаваныя кручком ручнікі, абрусы, макаткі і тканыя пакрывалы становяцца моднымі пры абсталяванні адрамантаваных, а нават і новаўзведзеных дамоў.

— У Тафілаўцах даўняе рукадзелле прынеслі Ірэна Рыбак, Марыя Рыбак, Вера Баравік, Марыя Галёнка, Надзея Краўчук і Аляксандра Джэга, — пералічвала спадарыня Міраслава Іванюк.

— Тут ёсць мае тканыя плахты, вышываныя падушкі і вырабы вязаныя кручком. Я нават ляльку выканала ўручную. Працуючы з кручком у руках або за кроснамі я адпачываю, — заявіла Аляксандра Джэга.

Марыя Корч і Марыя Вілюк захавалі абрусы, капы, ручнікі і макаткі, частку якіх перадалі на выставу.

— Тут прэзентуецца ільняная макатка з аленямі, якую ў маладосці выканала мая сястра. Уласніцай пакрывала была сястра маёй бабулі, якая не вярнулася з бежанства, жыла ў Кіеве і перадала яго нам як памятку, — сказала Тамара Яўдасюк з Гайнаўкі, якая адрамантавала бацькоўскі дом у Дабрывадзе і там пераховўвае народнае рукадзелле.

— Я ў бацькоўскай хаце ў Войнаўцы і ў Дабрывадзе, куды выйшла замуж і дзе жыву, выконвала абрусы, ручнікі і ткала пакрывалы. Я многа працавала, але гэта давала мне задавальненне. Радуе, што маё і іншых жанчын рукадзелле прэзентуецца тут на выставе і іншыя асобы могуць яго паглядзець, — гаварыла Ніна Яўдасюк.

— Мы цяжка працавалі ў маладосці, каб усё гэта выканаць. Рукадзелле бралі ў пасаг, пераязджаючы ў хату свайго мужа. Дзяўчаты, у якіх было больш ручнікоў, абрусаў, ці пакрывалаў лічыліся больш працавітымі, — распавяла старэнькая жанчына, якая прыехала, каб паглядзець сваё рукадзелле на выставе. Іншая жанчына заявіла, што на выставу прынесла прабабулін ручнік, выкананы ў 1888 годзе.

— Раней у рамках праграмы «Дзейнічай лакальна» Культурнае аб'яднанне «Паштоўка» з Палічнай атрымала сродкі на збор рукадзелля ў вёсках і наладзіла выставу ў Палічнай. Зараз дзеянні ў гэтым напрамку пашыраюцца, а іх рэзультатам з'яўляецца сённяшняя выстава з вялікай колькасцю экспанатаў, якімі ў мінулым карысталіся нашы продкі, — сказаў Ян Хомчук, дырэктар бюро Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча».

Загадчыца Музея ў Бельску-Падляшскім Аліна Дэмбоўская звярнула ўвагу на ручнікі, якія здаўна збірае і апрацоўвае разам з працаўнікамі музея. Заявіла яна, што некаторыя ўзоры на ручніках на выставе арыгінальныя і цікавыя.

— Тут прэзентуюцца шэдэўры колішняга рукадзелля. Іх вялікая каштоўнасць у даўніх тканінах і арыгінальных узорах, частка з якіх характэрная для нашага рэгіёна, — гаварыла этнограф па адукацыі Эва Кэчынская-Мароз.

— Тут вельмі цікавае рукадзелле нашых бабуль. Варта, каб вучні знаёміліся з традыцыямі нашага рэгіёна. У нашых школах мы таксама прэзентуем экспанаты з мінуўшчыны, з якімі знаёмяцца нашы вучні, — заявілі Бажэна Маркевіч, дырэктар Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы (раней № 6) і Аліна Гінশт, дырэктар Пачатковай школы ў Дубінах.

— Наш праект збору і вывучэння мясцовага даўняга рукадзелля пад лозунгам «Гісторыі сатканыя з ніцей — старое рукадзелле для будучыні» і выставу ўдалося нам рэалізаваць дзякуючы фінансавай дапамозе ў рамках праграмы «Патрыятызм заўтра», рэалізаванай Музеем гісторыі Польшчы ў Варшаве. Мы сфатаграфавалі ўзоры рукадзелля, хочам выдаць паштоўкі з іх выявамі. Экспанаты вернем іх уласніцам. Аднак застануцца здымкі і вопісы ўзораў рукадзелля, якія можна будзе творча выкарыстаць, — дабавіла Агата Рыхцік-Скібінская.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



■ Майстрыхі паказвалі, як трэба было класці падушкі і падушачкі-ясікі, каб тыя добра прэзентаваліся на засланым прыгожай капай ложку (справа стаіць Агата Рыхцік-Скібінская)





ISSN 0546-1960